23 лістапада 2018 | № 43 (606)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







«Стоп-бензін» па-французску
Стар. 8





# Слова за хвост не зловіш

Сяргей ПУЛЬША

**СМІ, як заўсёды, падхапілі і расцягнулі на загалоўкі словы Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што ў наступным годзе нас чакае палітычная «вакханалія», якая працягнецца мінімум паўтара года. Пад «вакханаліяй» беларускі кіраўнік меў на ўвазе парламенцкія і прэзідэнцкія выбары, якія «не дадаюць спакою ў нашым грамадстве».**

Насамрэч, «вакханаліі» — гэта распаўсюджанае ў Старажытным Рыме свята вясны. Звычайна «вакханаліі» пачыналіся ўначы з 16 на 17 сакавіка і па начах праводзіліся ўвесь месяц. Спачатку гэта было выключна жаночай справай, потым далучыліся і мужчыны.

Пазней гэта слова набыло набыло пераноснае значэнне — крайняя ступень беспарадку, разгулу, бязладная і бурная праява чаго-небудзь.

Цікава, раней кіраўнік дзяржавы неаднаразова заклікаў зрабіць выбары «святам для народа», і на перадвыбарчых участках панавала сапраўдная «вакханалія». Напрыклад, калі гарэлку налівалі наўпрост у навучальных установах. Зараз жа ніякага свята не прадбачыцца. Больш за тое, як адзначыў у каментары на партале Naviny.by палітычны аглядальнік Аляксандр Класкоўскі, кіраўніком дзяржавы «з кепска прыхаванай агідай успрымаецца сама неабходнасць захоўваць рытуал, прапісаны ў Канстытуцыі, выконваць фармальнасці для падаўжэння ўлады».

Між тым, згодна з той жа Канстытуцыяй, адзінай крыніцай улады ў краіне з'яўляецца народ. І народ дэлегуе свае паўнамоцтвы — надае ўладу — кіраўніку, чыноўнікам, дэпутатам. Называць гэты працэс «вакханаліяй» — у прынцыпе, пагарда да таго самага народа. Дарэчы, усе памятаюць слова «народзец», што таксама ўвайшло ў інтэрнэт-мемы.

Але народ можа і пакрыўдзіцца.

З кантэксту словаў Лукашэнкі вынікае, што ён ужыў слова «вакханалія» менавіта ў пераносным значэнні. І гэта азначае пэўную эвалюцыю ў свядомасці правадыра. Ад свята — да небяспекі.

З 2010 года беларускія выбары праходзяць без аніякіх узрушэнняў. Больш сумных выбараў, падаецца, у свеце няма. Яны адбываюцца паводле звыклага сцэнару, калі «не важна, як галасуюць, важна, як лічаць». Дый, насамрэч, і падлік галасоў ператварыўся ў пустую фармальнасць: галоўнае — што будзе напісана ў пратаколах. А ў пратаколах усё «ціп-топ». Самая максімальная «вакханалія» — лічаныя хвіліны выступаў прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта па тэлебачанні, якія ўжо цэнзуруюцца, ды дэбаты гэтых прэтэндэнтаў. Пры гэтым Лукашэнка на дэбаты не з'яўляецца, паказваючы іх нікчэмнасць. У выніку прэтэндэнты на вышэйшую пасаду шукаюць боб у гаросе, ні на што не ўплываючы.

Гэта не параўнаеш з выбарчымі кампаніямі ў больш дэмакратычных краінах — там сапраўды «вакханалія». Глянуць хаця б на суседнія Польшчу і Украіну, дзе пра новую прэзідэнцкую кампанію пачынаюць разважаць, як толькі закончыцца старая.

Так што нельга казаць пра беларускую «вакханалію» і ў пераносным сэнсе слова.

Чаму ж беларускі кіраўнік так пагардліва адгукаецца пра выбары? Напэўна таму, што ў ім падсвядома пануе страх. Як бы ні перапісвалі пратаколы, якім бы чынам ні малявалі «элегантную перамогу», але галасы ўсё ж хтосьці лічыць. Лічыць па-сапраўднаму. І гэтыя лічбы потым абавязкова з'явяцца ў закрытых аналітычных запісках, якія кладуцца на стол Лукашэнку.




**Як бы ні перапісвалі пратаколы, але галасы ўсё ж лічаць. І гэтыя лічбы потым з'явяцца ў закрытых аналітычных запісках, якія кладуцца на стол Лукашэнку**

І вось тут чакаць, падаецца, няма чаго. У 2015-м незалежныя сацыёлагі прызналі: дзейны кіраўнік усё ж перамог у першым туры выбараў. Згодна з апытаннямі НІСЭПД, ён набраў 50,8% галасоў. То бок, крыху менш працэнта не хапіла для таго, каб (па сумленні) быў бы другі тур выбараў. А не па-сумленні — каб Лукашэнка зразумеў, што завёў народ не туды. І сапраўдныя лічбы — гэта менавіта просьба да яго сысці. Казаў жа ён, што сыдзе, калі народ папросіць?

У 2015 годзе гэта было, хутчэй, «хай пакуль застаецца». Але ў 2015-м рэальныя заробкі былі ўсё ж блізкія да 500 долараў, а не 250–300, як зараз (каб высветліць рэальны заробак, дастаткова паглядзець на вакансіі — колькі зараз абяцаюць працадаўцы). У 2015-м не было «дармаедскага падатку» і масавых узрушэнняў з гэтай нагоды па ўсёй Беларусі. І ў 2015-м народ быў у шоку ад падзей ва Украіне, а таму галасаваў «за стабільнасць». Зараз гэты шок прайшоў.

Не ад агіды кіраўнік Беларусі называе выбарчы працэс «вакханаліяй». Хутчэй, ад страху ды няўпэўненасці.

Тым не менш, гэтым сваім выразам пра выбары Лукашэнка, сам таго не ведаючы, пацэліў «у дзясятку». Як зазначае Вікіпедыя, Рымскі Сенат увесь час выступаў у якасці праціўніка «вакханалій» у межах палітыкі па супрацьдзеянні таемным і падазроным містычным зборышчам. Была нават адпаведная сенацкая пастанова: Senatus consultum de Bacchanalibus. Рымскія консулы шукалі ўдзельнікаў зборышчаў па ўсёй Італіі, наступствам чаго было мноства арыштаў, ссылак, і нават пакаранняў смерцю.

І вось тут «вакханалія» сапраўды можа адбыцца.

Працяг тэмы на стар. 4 »

# Першы крок да свабоды

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«Не бойцеся!» — заклікаў Ян Павел ІІ. «Баяцца — глупства», — казаў герой фільма «Дагрукацца да нябёсаў». «Баязлівасць — самы страшны грэх на зямлі», — напісаў Міхаіл Булгакаў і паўтарыў у апошнім слове ўкраінскі рэжысёр Алег Сянцоў, асуджаны па сфабрыкаванай справе.**

У жыцці ёсць шмат момантаў, калі бывае страшна. Мы баімся, што не здолеем, не хопіць моцы, што занадта слабыя, — і з'яўляемся такімі насамрэч. Але толькі да таго часу, пакуль не перастанем баяцца.

Калі страх адступае, чалавек робіцца свабодным. І самае важнае, што ў такога чалавека ўжо немагчыма адабраць яго свабоду, што б з ім ні рабілі.

Менавіта таму расійскаму следству не ўдалося зламаць Алега Сянцова.

Гэтага не здолелі зрабіць здзекі і катаванні, пры дапамозе якіх з вязня спрабавалі выбіць прызнанні ў злачынствах, якіх ён не здзяйсняў. Як не зламалі яго і 145 дзён галадоўкі, якую трымаў, пакуль не пачалі карміць прымусова. Наадварот — спалохаліся турэмшчыкі!

«Мне не страшны гэты тэрмін у 20 гадоў, якім мяне палохалі з самага пачатку, бо я ведаю, што эпоха крывавых карлікаў сконьчыцца значна раней», — сказаў Сянцоў падчас аднаго з судовых пасяджэнняў.

І гэта несумненна адбудзецца, пытанне толькі — калі. На жаль, расійскі народ, звыклы жыць пад страхам гневу «цара-бацюхны» (ці, калі хочаце, сістэмы), пакуль не гатовы прыняць свабоду. Як не гатовы да гэтага і беларускі народ. Але прыклад той жа Украіны яскрава сведчыць: варта пазбавіцца страху — і перамены не прымусяць сябе чакаць. Так, вядома, з'явяцца і праблемы, якія трэба будзе вырашаць. Але, стаўшы на сцяжыну свабоды, ужо немагчыма будзе з яе збочыць. Самае галоўнае — зрабіць першы крок на гэтым шляху і перамагчы страх у сабе. І тады ўсё атрымаецца. Свабодныя людзі не могуць жыць у несвабоднай краіне, бо краіна — гэта і ёсць народ.

Нагадаем, Беларускі ПЭН-цэнтр пры падтрымцы Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь зладзіў паказ фільма «Працэс» рэжысёра Аскольда Курава. Фільм прысвечаны справе ўкраінскага рэжысёра Алега Сянцова, якому прымусова надалі расійскае грамадзянства і ў жніўні 2015 года прысудзілі ў Расіі да 20 гадоў пазбаўлення волі. Яго абвінавацілі ў арганізацыі тэрарыстычнай супольнасці і тэрактах у анексаваным Крыме: нібыта ён і яго саўдзельнікі рыхтавалі падрыў помніка Леніну ў Сімферопалі і падпалілі офісы «Рускай абшчыны Крыму» і партыі «Адзіная Расія».

Паказ фільма адбыўся ў межах Дня пісьменніка ў нявolі, заснаванага Міжнародным ПЭНам 37 гадоў таму.

# Дзесяць гадоў таму не стала Алега Лойкі

**19 лістапада 2008 года ў Слоніме не стала аднаго з самых выбітных навукоўцаў Беларусі, пісьменніка, доктара філалагічных навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа, былога дэкана філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Алега Лойкі.**

Алег Лойка быў родам са Слоніма. Ён любіў свой родны горад над Шчарай. Адсюль пайшоў у навуку, у літаратуру.

Скончыў філфак БДУ і аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры ўніверсітэта. Працаваў выкладчыкам у БДУ, загадчыкам кафедры, узначальваў універсітэцкае літаб'яднанне «Узлёт».

Пры жыцці напісаў і выдаў больш за 100 кніг паэзіі, прозы, літаратуразнаўчых даследаванняў, перакладаў, падручнікаў.

Апошнія гады свайго жыцця ён жыў у родным Слоніме на Віленскай вуліцы. Памёр і пахаваны на гарадскіх могілках.

У гонар знакамітага слонімца названа адна невялікая вуліца на ўскрайку горада і адкрыты маленькі пакой-музей у Слонімскай раённай цэнтральнай бібліятэцы. Але гэтага мала дзеля ўшанавання такой вялікай асобы, як Алег Лойка, у маштабах краіны.

Дзесяць гадоў таму мясцовыя чыноўнікі абяцалі па-сапраўднаму ўшанаваць імя Алега Лойкі. Гутарка ішла, каб адкрыць у яго гонар мемарыяльную шыльду на будынку ліцэя, дзе ён вучыўся, надаць яго імя гэтаму ліцэю. Устанавіць у Слоніме стыпендыю імя Алега Лойкі лепшым вучням школ горада і навучэнцам вучылішчаў. Адкрыць у Слоніме беларускі культурны цэнтр імя Алега Лойкі, дзе наладжваліся б і праводзіліся б літаратурна-музычныя вечары і сустрэчы. Устанавіць помнік свайму вялікаму земляку.

Але прайшло дзесяць гадоў, а да сённяшніх дзён няма ў Слоніме ні шыльды, ні помніка Алегу Лойку.

**Барыс Баль,**
**Беларускае Радыё Рацыя**

# Медыкі супраць судмедэкспертаў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Суд другі раз адмовіў Леаніду Кулакову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць Златы Савоставай, якая на сваім аўто наехала на яго каля рэстарана «Поедем, поедим» і з'ехала з месца здарэння.**

Тады Леаніду Кулакову дыягнаставалі пералом рукі. Адметна, што судмедэксперты абвяргаюць дыягназ, а медыкі працягваюць настойваць на ім.

«На словах суддзя сказала, што, калі я не згодны з пастановай, магу звяртацца ў вышэйшыя інстанцыі. Але ў пастанове напісала, што рашэнне канчатковае і абскарджванню не падлягае», — распавядае пра акалічнасці працэсу актывіст.

Па словах Леаніда Кулакова, суддзя адхіліла яго хадайніцтвы аб выкліку на працэс дактароў і судмедэксперта, якія ставілі яму супярэчлівыя дыягназы, а таксама сведак наезду.

«Суддзя не адказала ні на адно маё пытанне: напрыклад, ці мае права кіроўца наязджаць на людзей і пакідаць месца ДТЗ, а таксама ці была ўсё ж у мяне траўма», — звяртае ўвагу абаронца Курапатаў.

«На судзе я сказаў, што прабачыў бы наезд і не меў бы ніякіх прэтэнзій, калі б зачынілі рэстаран ля Курапатаў. На гэта суддзя ўсміхнулася», — кажа Кулакоў.

Нагадаем, 27 чэрвеня падчас Курапацкай варты на актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Леаніда Кулакова наехала машына (за рулём была Злата Савостава, якая з'ехала з месца здарэння). Пасля гэтага Кулакова забралі ў 6-ю гарадскую клінічную лякарню, дзе дыягнаставалі пералом рукі з абломкамі косткі.

Актывісту наклалі гіпс, з якім ён прахадзіў два месяцы. Аднак пазней судмедэксперты абверглі дыягназ, пастаўлены Кулакову лекарамі 6-й клінічнай лякарні і пацверджаны праз месяц у паліклініцы па месцы жыхарства.

Кулакоў напісаў скаргу ў камітэт па ахове здароўя Мінгарвыканкама на дзеянні лекараў, якія паставілі яму няправільны (як сведчыць заключэнне судмедэксперта) дыягназ. Адказ не прымусіў сябе чакаць.

«Дыягназ "закрыты пералом галоўкі левай лучавой косткі з задавальняючым станам абломкаў" вам пастаўлены слушна», — гаворыцца ў ім.

«У такім выпадку я буду падаваць пазоў у суд на дактароў, і няхай Мінздароўя і судмедэксперты разбіраюцца паміж сабой, хто з іх мае рацыю», — кажа Кулакоў.

Па яго словах, адказ з камітэта па ахове здароўя расставіў кропкі над «і»: гэта палітызаваная замова. Яму неаднаразова давалі зразумець, што дзяўчына, якая на яго наехала, пазбегне пакарання.

# Беларусь не выйдзе на станоўчае гандлёвае сальда з РФ

Генадзь КЕСНЕР

**Былы віцэ-прэм'ер ураду Беларусі Уладзімір Сямашка, прызначаны амбасадарам у Расіі, сваёй першачарговай задачаю лічыць зніжэнне коштаў расійскіх энерганосьбітаў для нашае краіны. Ці рэальна гэта?**

«Адмоўнае сальда з Расіяй сёння — рэальная эканамічная праблема. Калі б гэтага не было, наша эканоміка пачувалася б значна лепш. У глабальным плане задача ўрада і амбасады — вырашыць гэту праблему. Па-першае, трэба зрабіць таннейшымі закупы энерганосьбітаў, і падставы для гэтага ёсць, калі ўлічваць саюзныя дамоўленасці», — мяркуе Сямашка.

Ці рэальна гэта?

Эканаміст **Леў Марголін** адзначае, што яшчэ ў часы, калі ён быў намеснікам старшыні беларускага ўраду, Сямашка вялікую частку свайго часу выдаткоўваў менавіта на ўрэгуляванне спрэчак з Расіяй і на тое, каб энерганосьбіты паступалі ў Беларусь як мага танней. «Зараз пасада змянілася, але задача засталася ранейшай, бо галоўная праблема ў нас з Расіяй — гэта кошты на энерганосьбіты», — падкрэсліване эксперт.

***— Ці справіцца новы беларускі амбасадар з такой задачай?***

— Я мяркую, што Аляксандр Лукашэнка сыходзіць з рэальнасці, ён разумее, што гэта вельмі складанае пытанне. Але мы бачым, што ва Уладзіміра Сямашкі былі пэўныя вынікі ў гэтым плане, і Лукашэнка лічыць, што лепей за Сямашку з гэтым пытаннем ніхто не справіцца.

***— Лукашэнка заяўляў, што ў беларускага амбасадара мусяць быць надзвычайныя паўнамоцтвы. Што гэта азначае?***

— Гэта калька з Пуціна, які надаў расійскаму амбасадару паўнамоцтваў болей, чым у звычайнага пасла, калі зрабіў Бабіча паўнамоцным прадстаўніком. Вось і Лукашэнка вырашыў дзейнічаць паводле ягонага прыкладу. Звычайны пасол вырашае ўсе пытанні ў сваёй краіне праз Міністэрства замежных справаў. Але паколькі Сямашка мае ў нас цяжкую палітычную вагу, яму будзе прадастаўлена права наўпрост звяртацца да прэм'ера і нават прэзідэнта.

***— Ці рэальна пераадолець адмоўнае сальда ў гандлі з Расіяй?***

— У цяперашніх умовах гэта немагчыма. Нашым коньком увесь час была складаная тэхнічная прадукцыя, машынабудаванне, вытворчасць прыбораў, а ў Расіі былі сыравінныя прадукты. Але наша залежнасць ад сыравінных прадуктаў не толькі не зменшылася, але нават узрасла, а расійская залежнасць ад нашай прадукцыі істотна знізілася. Гэта і аўтамабільная вытворчасць, паколькі ў Расіі зараз нашмат больш сур'ёзных заводаў параўнальна з МАЗам, гэта і тэлевізары, лядоўні, пральныя машыны, электрапліты — усё, што раней называлі візітоўкай Беларусі. Зараз усё гэта мусіць канкураваць на расійскім рынку з Кітаем, Карэяй, заходнімі краінамі. З кожным годам нам канкураваць робіцца ўсё складаней і складаней. Таму вырашыць пытанне дысбалансу ў знешнім гандлі зараз нерэальна, бо адразу адмовіцца ад расійскіх энерганосьбітаў цяпер немагчыма.

***— Ці ёсць альтэрнатыва расійскім энерганосьбітам?***

— На дадзены момант няма, бо ўся наша эканоміка, перапрацоўчая прамысловасць завязаныя на Расію. Нашы нафтаперапрацоўчыя заводы і так не самыя эфектыўныя па перапрацоўцы нафты, і канкураваць на сусветным рынку яны могуць толькі праз цану на нафту. Калі яна вырасце, то канкураваць з перадавымі прадпрыемствамі мы не зможам.

***— У мадэрнізацыю беларускіх НПЗ ужо ўкладзеныя велізарныя грошы. Чаму няма выніку?***

— Гэта пытанне. Выхад на 90% перапрацоўкі нафты ў светлыя нафтапрадукты пераносіцца то на 2019, то на 2020, то на 2021 год. І гэты тэрмін увесь час аддаляецца. Быў адзін час, калі дзяржава літаральна рабавала нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы. Калі на Захадзе НПЗ бяруць крэдыты пад нізкія працэнты, то ў нас крэдыты вельмі дарагія, а дзяржава не мае грошай на субсідыі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не туды…

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Кудысьці не туды мы заехалі з нашай «сацыяльна арыентаванай дзяржавай» і «беларускім эканамічным цудам». І гэта сапраўды цуд: у еўрапейскай краіне з «мадэрнізаванай» прамысловасцю і моцным IT-сектарам мець заробкі ці не ніжэй, чым у Афрыцы.**



Фота www.liberty-belarus.info

Пра нізкія заробкі — гэта выснова інстытута Credit Suisse, спецыялісты якога склалі карту сярэдніх заробкаў па свеце за 2018 год. На карце відаць моцнае адрозненне паміж Усходам і Захадам Еўропы. Так, у зялёныя, «багатыя колеры», афарбаваныя такія краіны, як Германія, Францыя, Англія, Фінляндыя, Італія і гэтак далей. Зялёны колер азначае сярэдні даход насельніцтва ад 100 да 499,9 тысячы долараў на год, паведамляецца на сайце howmuch.net.

На фоне гэтага моцна вылучаецца Беларусь, якая афарбаваная ў ружовы колер. Ён азначае сярэдні заробак ад адной тысячы да пяці тысяч долараў на год.

Нават максімум — пяць тысяч долараў на год — гэта крыху больш за 400 долараў на месяц. То бок, ніякіх «па пяцьсот» няма і блізка.

У Еўропе ёсць толькі дзве «ружовыя» краіны — мы і нашая суседка з поўдня, Украіна. Але ва Украіне ідзе вайна. А ў нас што?

Можна, канешне, не верыць статыстыцы капіталістаў. Маўляў, зайздросцяць яны «беларускаму эканамічнаму цуду», таму і малююць такія прыкрыя карты. Але ж, пэўна, варта верыць інфармацыі ад праўладнай Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі?

Супрацоўнікі ФПБ у траўні гэтага года выявілі ў краіне аж 35 раёнаў, дзе надзвычай нізкі ўзровень заробкаў, які не дазваляе набываць нават неабходны мінімальны ўзровень тавараў і паслуг. Прадстаўнікі прафсаюзаў выязджалі ў асобныя раёны, каб выявіць прычыны, з-за якіх утварылася такая прыкрая сітуацыя. Гэтае пытанне ў чэрвені таксама ўздымалася на пасяджэнні Нацыянальнага савета прафсаюзаў.

Як паведамляе ФПБ, «адміністрацыйна праблема была часткова вырашана ў 29 раёнах». У выніку праблема вельмі нізкіх заробкаў, нібыта, засталася актуальнай толькі для 6 раёнаў Віцебскай і Магілёўскай абласцей.

Аднак не трэба радавацца, што мы так паспяхова змагаемся з жабрацтвам (а як інакш назваць сітуацыю, калі чалавек працуе, а за працу атрымлівае менш за пражытковы мінімум?). Галоўныя словы ў паведамленні ФПБ — «адміністрацыйна» і «часткова». То бок, гэтыя нібыта ўжо «паспяховыя» 29 раёнаў — ніякія насамрэч не паспяховыя. А «адміністрацыйна» азначае: людзям, канешне, паднялі заробак (што не можа не радаваць), аднак не коштам стварэння якаснай прадукцыі і яе продажу, а коштам субсідый, займаў, крэдытаў... А такія грошы маюць уласцівасць вельмі хутка заканчвацца, пасля чаго заробак зноў упадзе, а прадпрыемствы застануцца на ранейшым узроўні — аднак ужо з пазыкамі...

Ці ёсць у нас нейкае святло ў канцы тунелю? Можа быць, грошы, якія недаплачваюць працоўным, ідуць на развіццё вытворчасці?

І з гэтым праблемы. Іншыя капіталісты, ужо з Міжнароднага валютнага фонду, прагназуюць запаволенне росту ВУП у Беларусі. Згодна з іх прагнозам, у 2019 годзе валавы ўнутраны прадукт Беларусі вырасце ўсяго на 2,5%. Летам у беларускім урадзе абмяркоўвалі больш высокія лічбы — ад 2,8% да 4,1%.

Варта зазначыць, што за апошнюю пяцігодку прагнозы такіх арганізацый, як МВФ і Сусветны банк, для Беларусі па росце ВУП і інфляцыі спраўджваліся амаль заўсёды. І гэтым лічбам больш даверу, чым таму ж беларускаму ўраду, які часцяком з прагнозамі «памыляецца».

Але ж нават 2,5% ВУП — гэта рост? Насамрэч, не — лічаць эканамісты. Напрыклад, кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Леанід Заіка кажа, што сусветная дынаміка па ВУП прагназуецца на ўзроўні 4%. «Таму названая лічба — гэта занадта мала, каб спыніць разрыў, які ўвесь час павялічваецца. Беларусі хацяб вярнуцца да паказчыкаў дакрызіснага ўзроўню. Пасля 2014 года беларускі ВУП зваліўся амаль на 40% у доляравым эквіваленце. Каб вярнуцца на ранейшы ўзровень, трэба, каб эканоміка расла па 10% на год», — сказаў Леанід Заіка UDF.BY.

І развіццю эканомікі не дапамогуць ані прагрэсіўныя змены ў заканадаўстве, ані дэкрэты аб развіцці прадпрымальніцтва ці IT. Таму што, паводле меркавання Заікі, гэтыя дакументы «не адпавядаюць ідэалогіі беларускіх бюракратычных элітаў».

«Ні 2%, ні 3%, ні 4% нічога не дадуць. Павінна быць мінімум 8,5% на год», — лічыць іншы эканаміст, Леў Марголін. Пры гэтым ён адзначае, што лічба росту ВУП у 2,5% «знаходзіцца ў раёне статыстычнай памылкі». І нагадвае, што нядаўна чыноўнікі абяцалі рост ВУП да $100 мільярдаў да 2025 года. «Любы чалавек, які валодае матэматыкай, можа палічыць, якімі ў такім разе павінны быць тэмпы росту ВУП. Мінімум 8,5% на год», — адзначыў ён.

А такія тэмпы эканамічнага росту для нас недасягальныя. Чаму? Пра гэта сто разоў пісалася: найперш, пра наш інвестыцыйны клімат, нязбыўную карупцыю і адсутнасць прыватызацыі. Што, у сваю чаргу, не дазваляе ствараць эфектыўныя прадпрыемствы і высокааплатныя працоўныя месцы.

Дык што ж рабіць простаму чалавеку? Толькі дапамагаць сабе самому. На тыдні TUT.BY напісаў пра страйк на сталічным прадпрыемстве па вытворчасці дзвярэй «ВКТ Канстракшн». «Мы ўжо другі дзень бастуем — два цэхі стаяць. Нам некалькі месяцаў не выплачваюць заробак. За верасень яшчэ нейкія капейкі далі, на гэтым усё», — распавёў адзін са страйкоўцаў. «За верасень і кастрычнік заробак яшчэ не выплачвалі, — кажа мужчына. — Свае абавязацельствы — плаціць зарплату — кіраўніцтва выконваць не хоча. Заказы ў прадпрыемства ёсць, адгрузкі ідуць. Але дырэктар кажа, што грошай у нас няма. Нас прыкладна 80 чалавек. І ўсім не даюць зарплату».

Усяго на заводзе працуюць 150 чалавек. То бок, затрымкі з заробкам — у паловы.

І такія пратэстныя акцыі адбываюцца па краіне ўсё часцей. У жніўні ў Віцебскай вобласці ўспыхнуў стыхійны страйк рабочых Сенненскай раённай жыллёва-камунальнай гаспадаркі з-за зарплаты ў 70 рублёў (!) на месяц, а таксама бунт дворнікаў з-за скарачэння заробкаў у Бабруйску. У кастрычніку работнікі сельгаспрадпрыемства «Некрашынскі» пад Гомелем правялі страйк, пратэстуючы супраць звальнення свайго кіраўніка, — і паспяхова. «Званочкі» паступалі і з «флагманаў беларускай індустрыі».

Мы заехалі яўна не туды. Хутчэй назад, у 1990-я.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Барыс Гарэцкі



**Намеснік старшыні ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» паспрабаваў спыніць «справу БелТА» праз размову з гендырэктарам дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва Ірынай Акуловіч.**

Гарэцкі сустрэўся з Акуловіч, каб данесці пазіцыю, што канфрантацыя ў журналісцкай супольнасці не патрэбная нікому з бакоў. ГА «БАЖ» шмат гадоў спрабавала наладзіць дыялог паміж журналістамі дзяржаўных і недзяржаўных медыя, а «справа БелТА» супраць незалежных журналістаў у адзін момант гэта перакрэсліла. Да таго ж «справа БелТА» нанесла вялікія іміджавыя страты акурат інфармагенцтву БелТА і ўладам, а не недзяржаўным медыя, мяркуюць у БАЖ.

Гарэцкі нагадаў, што ў межах Крымінальнага кодэкса ў БелТА ёсць магчымасці прымірэння бакоў. У такім выпадку крымінальная справа можа не дайсці да суду. Гэта адзін з магчымых добрых крокаў для вырашэння канфлікту. І цяпер многае залежыць менавіта ад дзяржаўнага інфармагенцтва.

Ірына Акуловіч у сваю чаргу заявіла, што разумее сітуацыю. Аднак не будзе рабіць нейкіх крокаў, пакуль не завершыцца следства.

## Станіслаў Зась



**Дзяржсакратар Савета бяспекі Беларусі можа не ўзначаліць АДКБ. Усё праз тое, што Аляксандр Лукашэнка парушыў «ваенную таямніцу».**

Як перадавалі СМІ, кіраўнік Беларусі 12 лістапада сустрэўся з паслом Азербайджана Латыфам Гандзілавым. На гэтай сустрэчы яны абмеркавалі саміт АДКБ, які прайшоў 8 лістапада ў Астане. Гэта ўзрушыла кіраўніка Арменіі Ніколу Пашыняна. Па-першае, Азербайджан не з'яўляецца чальцом АДКБ, а па-другое, паміж ім і Арменіяй дагэтуль існуюць тэрытарыяльныя прэтэнзіі адносна Нагорнага Карабаху. І там раз-пораз успыхваюць узброеныя канфлікты.

Пашынян рашуча запатрабаваў ад Лукашэнкі тлумачэнняў. Беларускі МЗС назваў гэтае патрабаванне непрымальным.

«Мы павінны атрымаць тлумачэнні, і кожнай краіне павінна быць ясна, якія ў яго абавязацельствы перад партнёрамі, арганізацыяй, якія абавязацельствы ў арганізацыі перад краінамі. Мы свае саюзніцкія абавязацельствы выконваем, што, на жаль, не можам казаць у выпадку шэрагу партнёраў», — адзначыў Пашынян.

Новы генеральны сакратар АДКБ будзе вызначаны на наступным саміце арганізацыі 6 снежня ў Санкт-Пецярбургу. Па ідэі, ім павінен быць прадстаўнік Беларусі, верагодна — Зась. Але рашэнні ў АДКБ прымаюцца на аснове кансенсусу. А гэта значыць, што калі Арменія прагаласуе супраць кандыдатуры беларуса Станіслава Зася на пасаду генсека АДКБ, то пасады яму не відаць.

## Уладзімір Журавель



**У аўторак у Мінску развіталіся з вядомым беларускім футбалістам і трэнерам Уладзімірам Жураўлём, які памёр 18 лістапада на 48-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы.**

Журавель — выхаванец мазырскай ДЮСШ. У 1989 годзе трапіў у мінскае «Дынама», і разам з камандай шэсць разоў быў чэмпіёнам Беларусі па футболе.

У 2010 годзе ўвайшоў у трэнерскі штаб салігорскага «Шахцёра», на працягу чатырох гадоў прыводзіў «гарнякоў» да срэбных медалёў чэмпіянату.

У канцы 2013 года Журавель заключыў аднагадовы кантракт з мінскім «Дынама». Пасля 4 тура «Дынама» ўпершыню з 2004 года аднаасобна ўзначаліла турнірную табліцу. Аднак адарваца ад барысаўскага БАТЭ не атрымалася: «Дынама» ўзяло срэбра. Паралельна каманда Жураўля ўпершыню прабілася ў групавы этап Лігі Еўропы.

У 2015 годзе Журавель узначаліў «Гомель», які гуляў у другім беларускім дывізіёне, і вывеў клуб у вышэйшую лігу. У 2016 годзе перайшоў у «Дынама-Брэст», з якім выйграў Кубак Беларусі.

Апошняе месца працы рулявога — карагандзінскі «Шахцёр».



# У чаканні «Вакханаліі–2019»

Сяргей ПУЛЬША

**Аляксандр Лукашэнка паабяцаў нам аж паўтара года перадвыбарчай «вакханаліі». Абазнаныя ў беларускіх рэаліях людзі зрабілі выснову: гэта якраз той выпадак, калі кіраўнік краіны кажа тое, што думае. Але ж па выбарчым календары ў нас парламенцкія і прэзідэнцкія выбары прыпадаюць на 2020 год. Значыць, нейкая палітычная кампанія пачнецца раней, чым плануецца?**

### Хто заплаціць за банкет?

Нягледзячы на тое, што абвешчаныя паўтара года да канца 2020-га пачнуцца ўжо ўсярэдзіне 2019-га, то бок наступнага года, ніякіх выдаткаў у праекце бюджэту на 2019-ы на выбарчыя кампаніі пакуль не прадугледжана. Зазвычай урад пачынае планаваць бюджэт наступнага года ўвесну гэтага.

Можа, яны проста забыліся? Можа, справа ў тым, што ўрад у нас адносна новы, а стары пры планаванні такімі пытаннямі не замарочваўся? Ды не, нельга забыцца на такую падзею, як магчымая змена кіраўніцтва. Нават калі яна магчымая толькі гіпатэтычна.

Але ўсе палітыкі-практыкі, з якімі паразмаўляў НЧ, лічаць, што грошы — не праблема. І, сыходзячы са словаў Аляксандра Рыгоравіча, плануюць першую выбарчую кампанію недзе напрыканцы 2019-га. Яны мяркуюць, што гэтая кампанія будзе парламенцкай.

Праўда, у такім выпадку тэрмін дэпутатаў, якія былі абраныя 11 верасня 2016 года, скарачаецца на цэлы год. Яны адпрацуюць тры гады замест чатырох. Як гэта патлумачыць і народу, і самім дэпутатам, незразумела. Канешне, дэпутатаў пытацца ніхто не будзе, але ж нейк трэба будзе падвесці фармальную базу пад скарачэнне іх тэрміну.

### Датэрміновыя выбары магчымыя?

Вось тут і пачынаецца «вакханалія» і «вэрхал». Можна прызначыць парламенцкія выбары на восень 2019-га пры адной простай умове: калі прэзідэнт распусціць парламент.

Артыкул 93 Канстытуцыі прадугледжвае, што роспуск адной з палат парламента можа стаць прычынай і роспуску другой. А артыкул 94 паведамляе: паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў могуць быць датэрмінова спынены пры адмове ў даверы ўраду, выказванні вотуму недаверу ўраду або двухразовай адмове ў дачы згоды на прызначэнне прэм'ер-міністра. Паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў або Савета Рэспублікі могуць быць таксама датэрмінова спыненыя на падставе заключэння Канстытуцыйнага Суда ў выпадку сістэматычнага або грубага парушэння палатамі парламента Канстытуцыі.

Каб наш парламент «парушыў Канстытуцыю»! Немагчыма! А вось не пагадзіцца прызначыць прэм'ера... Для гэтага трэба нешта з шэрагу тых жа старажытнарымскіх «вакханалій». Напрыклад, калі імператар Калігула зрабіў сенатарам свайго каня Інцытата.

### Злева гатовы святкаваць

Намеснік старшыні Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» **Валерый Ухналёў** кажа, што яго партыя гатова ўдзельнічаць у выбарах. Праўда, агаворваецца ён, «гледзячы, што разумець пад гатоўнасцю».

— Калі казаць пра гатоўнасць удзелу ці няўдзелу, то мы заўсёды ўдзельнічаем ва ўсіх кампаніях, незалежна ад таго, як яны праходзяць. Мы выдатна разумеем, што гэта сапраўды не выбары, а вакханалія, як сказаў кіраўнік дзяржавы. Тым не менш, удзельнічаем.

Што тычыцца канкрэтнай падрыхтоўкі да выбараў, то, калі першымі будуць выбары ў Палату прадстаўнікоў, — у нас ёсць нават сёння людзі (каля 30 чалавек, папярэдні спіс), якія пойдуць у сваіх акругах і будуць працаваць з выбаршчыкамі. Калі прэзідэнцкія — партыя «Справядлівы свет» будзе ўдзельнічаць і ў іх. Хто будзе кандыдатам — гэта будзе вырашацца бліжэй да кампаніі.

У нас у траўні наступнага года адбудзецца вялікі справаздачна-выбарчы з'езд, які праходзіць раз на чатыры гады. І я думаю, на з'ездзе будзе прынятае рашэнне, якім чынам мы будзем удзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі. Да таго часу, на маю думку, ужо будзе зразумела, калі і якія выбары будуць.

Зразумела, што яны будуць разнесеныя. Па словах Лукашэнкі, «вакханалія» мае месца быць паўтара года. Значыць, нейкія выбары будуць, я мяркую, ужо ўвосень 2019-га.

Дзве кампаніі запар для партыі вытрымаць будзе цяжка, адзначае Ухналёў. Але камуністы вытрымлівалі і не такое.



— Гэта цяжка: у плане падрыхтоўкі, удзелу, рэсурсаў. І ў маральным плане, калі мы ведаем, што гэта не выбары — а я думаю, што так яно звыкла і будзе. Знайсці матывацыю для ўдзелу людзей у іх няпроста. Людзі ж бачаць, што ад іх практычна не залежаць вынікі. Канешне, ад іх залежыць, якім чынам будзе прадстаўлена партыя, як яна пра сябе заявіць — гэта адно. Гэта папросту выкарыстанне магчымасцяў кампаніі. А што тычыцца непасрэднага выніку выбараў, то людзі разумеюць, што не яны вызначаюць, хто будзе дэпутатам альбо прэзідэнтам. І вось гэта — вялікая цяжкасць.

### Справа рыхтуюцца да пахавання

Кіраўнік Руху «За Свабоду» **Юрась Губарэвіч**, які прадстаўляе сваю структуру ў правацэнтрысцкай кааліцыі, зазначае: тое, што ў нас адбываецца з выбарамі, на свята не падобнае:

— На маё перакананне, выбары могуць стаць святам, толькі калі яны будуць рэальна свабодныя, празрыстыя і дэмакратычныя. Усё, што адбываецца і арганізавана гэтай сістэмай пры так званых «выбарах», — гэта, хутчэй, не свята, а пахавальны марш па перспектывах Беларусі. Калі не ідзе абнаўленне ў кіруючых элітах натуральным чынам, то адбываецца застой і адсутнічае магчымасць абраць аптымальны шлях для развіцця краіны.

Я думаю, што ў нас будуць і вартыя кандыдаты, і новыя ідэі, і падтрымка грамадства. Так, гэта можна назваць святам дэмакратыі, бо можна выходзіць на вуліцы пад бел-чырвона-белымі сцягамі, выстаўляць пікет, не баючыся штрафаў, затрыманняў, сутак, праводзіць мерапрыемствы — мы гэтым скарыстаемся напоўніцу. Магчыма, гэта і агідна Аляксандру Лукашэнку, таму ён і называе два месяцы перадвыбарчай кампаніі — збор подпісаў і агітацыю — «вакханаліяй». Калі і хацелася б загнаць усіх міліцэйскімі дручкамі ў турмы, але ён не можа сабе гэтага дазволіць.

У тым, што запар пойдуць дзве палітычныя кампаніі, Губарэвіч бачыць выключна плюсы:



— Для нас дзве кампаніі запар — гэта, хутчэй, добра. Бо мы задзейнічаем і тых людзей, хто пойдзе на выбары Палаты прадстаўнікоў, каб яны ў сваіх кампаніях згадвалі таго, хто пойдзе на прэзідэнцкія. Я думаю, што ўлада гэта ўлічвае, і наўрад ці яны б хацелі такога сумяшчэння, бо проста будзе большая колькасць матываваных людзей, якія задзейнічаныя ў працэсы.

Што тычыцца праекту бюджэту, у якім выдаткі на выбары ў 2019 годзе не закладзеныя, то мы ведаем, як парламент проста па шчаўчку пальцаў прымае рашэнне... Яны здольныя ў любы момант унесці любыя папраўкі ў бюджэт, і кампанія, якая пачынаецца за тры-тры з паловай месяцы да даты выбараў, можа стартаваць у любы момант.

Пакуль мы прытрымліваемся выпрацаванай намі схемы — вылучэння адзінага кандыдата ад правацэнтрысцкай кааліцыі. Зараз ідуць працэсы ўнутры арганізацый. БХД вызначаецца зараз, хто будзе кандыдатам у іх, Рух «За Свабоду» ў снежні правядзе канферэнцыю, якая вызначыць гэтае пытанне, нешта вырашае АГП. А наступным годам мы ўжо пачнём вызначэнне адзінага.

### Пасярэдку кажуць: сумна

На любым свяце ёсць людзі, якія не святкуюць, а швэндаюцца туды-сюды з рознымі пытаннямі. На беларускіх «вакханаліях» такія — «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Адзін з каардынатараў гэтай кампаніі, **Валянцін Стэфановіч** кажа, што яны да выбараў гатовыя заўсёды. І гэта заўсёды цяжка, але будзе яшчэ цяжэй:



— Мы за «вакханаліямі» назіраем ужо даўно, а з 2008 года — у межах кааліцыі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». Мяркую, што будзем назіраць і за настаючымі вакханаліямі таксама. Праўда, пакуль не зразумела, калі яны будуць, бо па календары ўсё гэта выпадае на 2020 год — і парламенцкія, і прэзідэнцкія выбары. Але, сыходзячы са словаў кіраўніка дзяржавы, можна думаць, што нешта нас чакае яшчэ ў 2019 годзе. Раней кіраўнічка ЦВК Ярмошына казала, што, паводле яе меркавання, лепей выбары развесці, бо для аднаго года двое выбараў зашмат, і гэта можа прывесці да дэстабілізацыі ўнутрыпалітычнай сітуацыі. На жаль, у нас улады расцэньваюць выбары, якія павінны быць святам дэмакратыі, выключна як вакханалію альбо магчымасць дэстабілізацыі сітуацыі ў краіне.

Аднак яснасці няма. Але ў любым разе назіраць будзем. Калі такі значны палітычны працэс адбываецца ў краіне — будзем даваць яму ацэнку.

Пры гэтым Стэфановіч сам непакоіцца пра тое, ці хопіць у назіральнікаў людскіх сілаў, рэсурсаў і магчымасцяў.

— Мы ж не прафесійная арганізацыя па назіранні за выбарамі. Мы — праваабаронцы найперш, і назіранне — адзін з відаў нашай дзейнасці. І так сталася, што сістэмаў незалежнага назірання за выбарамі апроч нас няма. Ёсць партыйнае назіранне, ёсць назіральнікі, уключаныя ў працэс, — вылучаюць кандыдатаў, сяброў у камісіі і гэтак далей. Мы не ўключаныя ў працэс і ніякім бокам не падтрымліваем ніводнага з кандыдатаў і ніякія палітычныя сілы.

Двое выбараў запар — для нас гэта будзе перагруз. Будзем абапірацца на свае рэгіянальныя аддзяленні, будзем спрабаваць прыцягнуць валанцёраў, хаця ў нашых умовах на выбары валанцёраў зацягнуць з кожным годам усё цяжэй. Нашы выбары — нешта набліжанае да савецкіх стандартаў, хутчэй — адміністрацыйныя працэдуры, за якімі назіраць вельмі самотна. Гэта адзін з нашых самых невясёлых відаў дзейнасці, бо з года на год нічога не мяняецца. І зараз, наколькі казалі Лукашэнка з Ярмошынай, заканадаўства, па якім выбары будуць адбывацца, застанецца без зменаў.

Карацей, да выбараў усе гатовыя. Дык, можа, больш нікога не будзем чакаць і пачнём?

# Усмешка як парушэнне працоўнай дысцыпліны

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Як кіраўніцтва з дапамогай кантрактаў прэсінгуе работнікаў**

У лістападзе 2018 года Палата прадстаўнікоў у другім чытанні разгледзіць чарговыя папраўкі ў Працоўны кодэкс РБ. Згодна з імі, «часовая» кантрактная форма найму на працу будзе канчаткова ўзаконеная.




**Аднойчы кіраўніцтва «па-сяброўску» яму параіла: «Калі табе нешта не падабаецца, едзь у Польшчу». Але супрацоўнік не лічыў, што ён павінен кудысьці ехаць**

## Пра дурняў і кіраўнікоў

Насуперак распаўсюджанай думцы пра пасіўнасць і абыякавасць нашых людзей, чарговае пагаршэнне правоў наёмных работнікаў, да чаго прывядуць папраўкі ў Працоўны кодэкс, іх вельмі хвалюе. Пра гэта НЧ распавёў адзін з гамельчукоў. На прыкладзе сваёй установы ён прадэманстраваў, як кіраўнікі сёння кантралююць работнікаў.

Дзмітрый працаваў у адным з гомельскіх гарадскіх сацыяльных цэнтраў:

— Наша арганізацыя закліканая дапамагаць жанчынам і дзецям, найбольш неабароненым слаям насельніцтва. Здавалася б, усе, хто працуе там, павінны вылучацца гуманным і добразычлівым стаўленнем да людзей. Але калі чалавек атрымлівае неабмежаваную ўладу, ён адназначна змяняецца не ў лепшы бок. Дырэктарка ўсталявала ў нашай установе класічны аўтарытарны рэжым. Нават усмешка разглядалася як парушэнне, у большасці работнікаў пераважала пачуццё страху і псіхалагічнага прыгнёту. Калектыў быў ператвораны ў безыніцыятыўную масу без права голасу і свайго меркавання. Хаця калектыўная дамова дае ўсім работнікам даволі шырокія правы, на справе ўсё было па-іншаму. Звычайныя нармальныя чалавечыя эмоцыі заглушаюцца і асуджаюцца. Напрыклад, любыя праявы добрага настрою. Вельмі часта мела месца фамільярнае абыходжанне з падначаленымі.

Ад дырэктара і яе намесніцы на адрас супрацоўнікаў часта гучала: «Звольню», «Не працягну кантракт». Прычым гэта не было звязана з парушэннем дысцыпліны або прафесійных абавязкаў, а проста з'яўлялася такой манерай зносін. Нават калі былі памылкі па працы, яны не разбіраліся, а толькі фіксаваліся, каб потым прад'явіць іх супрацоўніку перад звальненнем. Хаця найпершая задача кіраўніка — абмеркаваць памылкі і недахопы супрацоўніка ў працы і выправіць іх.

Усё гэта выглядала, хутчэй, як помста ці здзек. Дырэктар у дадзеным выпадку выступае не ў якасці арганізатара і арбітра, а ў якасці самадура і наглядчыка. Па прынцыпе: «Я кіраўнік — ты дурань».

## Дзяржава для народа?

На думку Дзмітрыя, начальнік любога ўзроўню не павінен быць прывілеяваным і безадказным. Ён павінен быць першым сярод роўных. Зрэшты, наверсе такую яго «састарэлую» пазіцыю не падзялялі. Аднойчы кіраўніцтва «па-сяброўску» яму параіла: «Калі табе нешта не падабаецца, едзь у Польшчу». Але супрацоўнік не лічыў, што ён павінен кудысьці ехаць. Гамяльчук перакананы, што ён павінен працаваць дома, у сябе на радзіме. І будаваць сваю дзяржаву з адэкватнымі законамі і нармальным стаўленнем да людзей.

— Я хачу працаваць і жыць у Беларусі, падымаць тут эканоміку і фармаваць здаровае грамадства, а не ехаць кудысьці, — кажа ён. — «Скажы дзякуй, што ўзялі цябе на працу без рэгістрацыі па месцы працаўладкавання», — заявіла мне некалі дырэктарка. Гэта што? Новае прыгоннае права? Кіраўнік не разумее прынцыпы сучаснага рынку працы? У развітых краінах чалавек не прывязаны да месца жыхарства, а перамяшчаецца па тэрыторыі дзяржавы ўслед за працай.

Пры гэтым, як вынікае са словаў Дзмітрыя, сама адміністрацыя асаблівай службовай стараннасцю не вылучалася. Паводле яго словаў, дырэктарка ўстановы была інвалідам ІІІ групы. У сувязі з тым, што акрамя адпачынку яна два разы на год клалася ў стацыянар на лячэнне, чвэрць года яе на працы не было.

А некаторыя факты, выкладзеныя Дзмітрыем, падаюцца папросту неверагоднымі. Напрыклад, ён кажа, што загадчыца крызісным аддзяленнем на сваім працоўным месцы займалася... акультнымі практыкамі! У працоўны час у дзяржаўнай установе яна складала прыватным кліентам астралагічныя гараскопы і прадказанні!

А вось варажба з нагоды налічэння ўласнага заробку, а таксама наконт іншых фінансавых пытанняў, у сацыяльным цэнтры не заахвочвалася. Дзмітрый распавядае:



— Усіх, хто спрабаваў разабрацца ў правільнасці налічэння заработнай платы, адпаведнасці працы і сумы ў разліковым аркушы, звальнялі паводле розных падставаў. У аддзяленні на другім паверсе пражывалі ўцекачы і грамадзяне РБ, якія часова трапілі ў цяжкую жыццёвую сітуацыю. Дык вось прыборкай гэтага інтэрната павінны былі займацца не жыхары, а супрацоўнік клінінгавай службы. Для гэтага ў штатным раскладзе была прадугледжана пасада прыбіральшчыка. Аднак самога прыбіральшчыка не было. Куды сыходзілі сродкі, зэканомленыя на гэтым манеўры, таксама з'яўлялася сакрэтам. Пры з'яўленні «на аб'екце» санстанцыі графік чарговасці вільготнай уборкі жыхарамі паверха заўсёды здымаўся загадчыцай з інфармацыйнага стэнда.

Не лепшымі былі і ўмовы на працоўных месцах. Так, у дзяжурным пакоі са столі пастаянна сцякала вада, а электрычныя выключальнікі ад яе спрабавалі абараніць поліэтыленавымі пакетамі! Аднак усе прапановы персаналу наконт паляпшэння ўмоў працы адміністрацыя, якая даволі камфортна размяшчалася ў сваіх кабінетах, упарта ігнаравала. На думку суразмоўцы, да супрацоўнікаў ставяцца як да расходнага і лёгка замяняльнага матэрыялу. А шмат у чым такі падыход спрашчае кантрактная сістэма і дэкрэт №29. Незадаволеным папросту не працягваюць кантракт, прымушаюць да звальнення па дамове бакоў альбо звальняюць па артыкуле.

Дзмітрый — неабыякавы чалавек. Ён хацеў бы лепшых умоў працы не толькі для сябе асабіста, але і заканадаўчай абароны хоць бы элементарных правоў работнікаў. Свой зварот у рэдакцыю гамяльчанін заканчвае наступным чынам:

— Калі папраўкі аб канчатковым зацвярджэнні кантрактнай формы найму будуць унесеныя ў Працоўны кодэкс, гэта стане чарговым ударам па правах і свабодах усіх працоўных Беларусі. Заўсёды над кіраўніком любога ўзроўню павінна быць сістэма стрыманняў і процівагу выглядзе збалансаванага, адэкватнага і справядлівага закона. І стварэнне такой сістэмы ў прамых інтарэсах кожнага шараговага грамадзяніна. Але за ўдасканаленне заканадаўства трэба змагацца. Хоць бы і шляхам стварэння магутных незалежных прафсаюзаў па галіновай або агульнай прыкмеце, якія не залежаць ад чыноўнікаў і рэальна абараняюць працоўнага чалавека.

## Сацыяльная безадказнасць

У цэлым, на думку актывістаў міжнароднага і беларускага рабочага руху, асноўная мэта паталоўнага навязвання работнікам тэрміновай формы найму (кантрактаў) — гэта павышэнне іх залежнасці ад працадаўцы, а значыць, і ступені эксплуатацыі. У гэтых умовах значэнне калектыўных дагавораў зводзіцца шмат у чым да пустой фармальнасці, а стварэнне незалежных прафсаюзаў і барацьба за павышэнне заработнай платы — істотна абцяжарваюцца.

У Беларусі на аснове кантрактнай сістэмы сацыяльна безадказныя працадаўцы ўсіх формаў уласнасці значна зрэзалі правы наёмных работнікаў. Пад прыкрыццём кантрактаў і пагрозай неадкладнага звальнення сёння зніжаецца рэальная заработная плата, павялічваюцца норма выпрацоўкі і службовыя абавязкі, практыкуюцца адвольныя звальненні супрацоўнікаў па прычыне асабістых сімпатый-антыпатый начальства, ажыццяўляецца «аптымізацыя» і замаскіраваныя скарачэнні, ствараюцца магчымасці для самага рознага свавольства і самадурства босаў. Таксама кантракты служаць выпрабаваным інструментам для выбудоўвання кланавых адносін ва ўстановах і прадпрыемствах, звальнення «чужых» і прыёму на працу «сваіх».

Кантрактная форма найму была ўведзена ў Беларусі ў 1999 годзе дэкрэтам №29. На той момант нават афіцыйныя прафсаюзы выступалі супраць яе. Дэкрэт №5, прыняты ў 2014 годзе, надаў працадаўцы дадатковыя правы — змяняць умовы найму «ў сувязі з новымі абставінамі», пазбаўляць прэміі да 12 месяцаў і гэтак далей. Міжнародная арганізацыя працы (МАП), міжнародныя і беларускія незалежныя прафсаюзы бачаць у падобных працоўных адносінах элементы прымусовай працы. Аднак у адказ на гэтую крытыку афіцыйныя інстанцыі ў Беларусі кажуць, што ўсе дэкрэты аб кантрактах носяць «часовы» характар. А Працоўны кодэкс захоўвае правы на бестэрміновы працоўны дагавор. На справе ў апошні час бестэрміновы наём практычна не ажыццяўляецца ні дзяржаўнымі, ні прыватнымі ўласнікамі.

У 2016 годзе Палата прадстаўнікоў у першым чытанні разгледзела праект аб унясенні паправак у Працоўны кодэкс. Падобна на тое, што цяпер на лістападаўскай сесіі дэпутаты «часовую» кантрактную сістэму канчаткова зробяць сталай. А значыць, «дамоклаў меч» кантракту і звальнення з гэтага часу пастаянна будзе вісець над галавой работніка.

# БАПЦ: утварэнне і канец

Таццяна ПРОЦЬКА

**Пасля смерці Патрыярха ў пачатку красавіка 1926 года кіраваць Праваслаўнай рускай царквой (ПРЦ — нагадаем, ранейшая назва РПЦ) пачаў Месцаблюсціцель — мітрапаліт Пётр (Палянскі), які ўжо ў снежні быў арыштаваны. Лічыцца, што па яго распараджэнні кіраўніцтва ПРЦ перайшло да мітрапаліта Сергія (Страгародскага) у рангу намесніка Месцаблюсціцеля. Паколькі пасаду намесніка Месцаблюсціцеля на Памесным саборы вызначаная не была, і ніхто мітрапаліта Сергія на кіраўніцтва ПРЦ не абіраў, сярод епіскапаў пачаліся нараканні на некананічнасць новага кіравання і яго сувязі з АДПУ.**

## Становішча нявызначанае

У Беларусі ва ўмовах ганенняў на Царкву расло раздражненне парафіяльнага духавенства сітуацыяй, што склалася з нагоды нявызначанага становішча Беларускай мітраполіі. У красавіку 1926 года да намесніка Месцаблюсціцеля, напрыклад, звярнуўся бабруйскі протаіерэй Сямён Біруковіч з «руплівай просьбай патлумачыць, ці можна Бабруйскага, Мінскай епархіі, епіскапа Філарэта прызнаваць сапраўдным архіерэем?»

Вясной 1927 года беларускія епіскапы вырашылі працягнуць шлях легалізацыі самастойнай Беларускай Праваслаўнай Царквы, што раней рабіў мітрапаліт Мелхіседэк. Епіскапы і духавенства Мінскай епархіі вырашылі поўнасцю аддзяліцца ад маскоўскіх іерархаў. Формай аддзялення была абраная ўжо не аўтаномія, а аўтакефалія.

Аўтакефалія ў праваслаўі — распаўсюджаная форма арганізацыі царкоўнага кіравання. Аўтакефальнай лічацца самастойныя Памесныя Цэрквы, якія не залежаць ад іншай Памеснай Царквы. Кіраўнікі аўтакефальных цэркваў маюць права «пастаўляць сабе епіскапаў», «пастаўленне» здзяйсняецца «на свабодную кафедру», у аўтакефальнай царкве не павінна быць менш за чатыры епіскапскія кафедры. Выпадкова ці не, але ў Беларусі мітрапаліт Мелхіседэк стварыў неабходную колькасць кафедраў.

Фактарамі, якія даюць падставу для стварэння новай аўтакефальнай царквы, лічацца: поўная або частковая палітычная самастойнасць тэрыторыі, на якой утвараецца аўтакефальная царква, яе геаграфічная аддаленасць ад Маці-Царквы (кірыяхральнай), этнічнае і моўнае адрозненне рэгіёну ад асноўнай тэрыторыі. Працэс беларусізацыі ў БССР падкрэсліў і пацвердзіў выкананне гэтых умоў.

Рашэнне аб дараванні аўтакефаліі прымаецца вышэйшай уладай кірыяхральнай царквы. Меркавалася, што гэтую праблему будзе вырашаць Мелхіседэк, які ў гэты час знаходзіўся ў Маскве.

Аб'ява беларускай аўтакефаліі была абумоўленая і асаблівасцямі тагачаснага дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. 1927-ы быў годам, калі ілюзія адносна магчымасці самастойнага курсу развіцця БССР была максімальнай і досыць папулярнай у беларускім грамадстве. 14–20 лістапада 1926 года адбылася 1-я Акадэмічная канферэнцыя па пытаннях рэформы беларускага правапісу і азбукі, якая рэкамендавала ў беларускай мове перайсці з кірыліцы на лацінку. 8 снежня 1926-га адбылося павелічэнне тэрыторыі БССР: у яе склад былі ўключаны Гомельскі і Рэчыцкі паветы,ператвораныя ў Гомельскую і Рэчыцкую акругі — тэрыторыя БССР павялічылася больш чым удвая.

У канцы 1926 года быў завершаны працэс аднаўлення прамысловасці Беларусі, разбуранай сусветнай і лакальнай войнамі — валавая прадукцыя БССР перасягнула ўзровень 1913 года на 28%. У дзяржаўных установах у якасці дзяржаўнай мовы дакументаабарот вёўся на беларускай мове. 11 красавіка 1927 года на 8 Усебеларускім з'ездзе Саветаў была прынятая новая Канстытуцыя Беларускай ССР. З эміграцыі па закліку ўладаў вярнуліся многія беларускія нацыянал-дэмакратычныя лідары.

Улетку 1927 года пазіцыі прыхільнікаў беларусізацыі і самастойнасці БССР значна ўзмацніліся: першы сакратар бюро ЦК КП(б)Б Крыніцкі ў траўні спыніў свае паўнамоцтвы і з'ехаў з Беларусі (новы першы сакратар Гамарнік быў дасланы толькі ўвосень 1927 года). Галоўным органам у краіне на кароткі час стаў ЦВК БССР, які ўзначальваў Чарвякоў. 5 чэрвеня пры таямнічых абставінах пад Мінскам перакулілася дрызіна, пад якой загінуў намеснік старшыні ДПУ БССР Іосіф Апанскі, заўзяты праціўнік і беларусізацыі, і Праваслаўнай Царквы.

Кіраўніцтва Беларусі ў 1920-я гады было камуністычным, што значыла — атэістычным. Але, як рэальныя палітыкі, лідары БССР лічылі, што хутка пераадолець векавыя «рэлігійныя памылкі» немагчыма. Таму царкву вырашылі не знішчаць, а выкарыстоўваць для ўмацавання БССР і яе самастойнасці. З улікам крызісу і поўнай блытаніны ў кіраўніцтве ПРЦ аўтакефальная форма беларускаму кіраўніцтву падалася найлепшай.

У гэтых умовах беларускія епіскапы палічылі, што Праваслаўная Царква ў Беларусі зможа быць па-сапраўднаму аддзеленай ад савецкай дзяржавы. Формулу гэтага аддзялення мітрапаліт Мелхіседэк выказаў проста: дзяржава свабодна змагаецца з рэлігіяй, Царква свабодна змагаецца з бязбожнасцю і атэізмам.



Асуджаныя па справе АДПУ «Беларуская Аўтакефальная Царква» сёстры Юлія (злева), Любоў (справа). У цэнтры сястра епіскапа Філарэта Раменскага Марыя



Мітрапаліт Панцялейман (Ражноўскі)

Для таго, каб абвяшчэнне аўтакефаліі было кананічным, вясной і летам 1927 года епіскапы Мінскай епархіі правялі перамовы ў прыходах і па іх выніках падрыхтавалі дакумент, які называўся «Дэкларацыя Беларускага праваслаўнага духавенства (старацаркоўнікаў-аўтакефалістаў) Мінска і яго ваколіц ад 21 чэрвеня 1927 года». У гэтым дакуменце, у прыватнасці, гаварылася: «У рэлігійнай свядомасці праваслаўных веруючых мас Беларусі заўсёды была жывая думка пра аўтаномію, і ў цяперашні час, калі ў асяроддзі Праваслаўнай Царквы Усерасійскай растуць рэлігійныя рознагалоссі, павялічваецца колькасць розных царкоўных груповак. Не жадаючы ўцягвацца ў барацьбу паміж рэлігійнымі царкоўнымі партыямі, Беларуская Праваслаўная Царква лепшым сродкам пазбегнуць гэтага лічыць сцвярджэнне аб сваёй непахіснай волі быць аўтакефальнай».

Аб'ява аўтакефаліі пераследавала яшчэ адну мэту, пра якую ў Дэкларацыі не пісалі, — выратаваць ад арыштаў духавенства і вернікаў шляхам легалізацыі царкоўнага кіравання і дзейнасці БПЦ.

## «Рука Масквы»

Беларускія епіскапы не ведалі, што ў Маскве была ўжо гатовая іншая Дэкларацыя, якая, з аднаго боку, завяршала намаганні АДПУ па падпарадкаванні ПРЦ савецкай дзяржаве. 29 ліпеня 1927 года быў падпісаны дакумент, які істотным чынам змяніў ход гісторыі ПРЦ.

Гэты дакумент шырока абмяркоўваецца да цяперашняга часу і называецца ён «Дэкларацыя мітрапаліта Сергія». З яго не вынікала, які менавіта механізм узаемаадносін з савецкай уладай мяркуецца ўсталяваць. Але ўсе разумелі: незалежнасць Царквы ад дзяржавы скончылася, атэістычная дзяржава будзе дыктаваць свае ўмовы праз супрацоўніцтва з АДПУ. За рэгістрацыю вышэйшага царкоўнага кіраўніцтва было заплачана дорага: з гэтага часу любое прызначэнне або перасоўванне святароў ажыццяўлялася толькі са згоды партыйна-савецкіх органаў, якія карысталіся пры вырашэнні гэтых пытанняў меркаваннямі спецслужбаў.

Дэкларацыя мітрапаліта Сергія ў выглядзе паслання была разасланая ў епархіі і атрымала там неадназначную ацэнку. У Мінскай епархіі дакумент умацаваў епіскапаў і духавенства ў правільнасці абранага імі нялёгкага шляху аўтакефаліі. Тых, хто падтрымаў дэкларацыю, у Мінску сталі пагардліва называць «сергіянцы».

Дакументаў савецка-партыйных органаў па пытанні ўтварэння беларускай аўтакефаліі пакуль не выяўлена — савецкія афіцыйныя гісторыкі гэтым не цікавіліся. Але са следчых матэрыялаў спецслужб вядома, што прыватныя размовы на тэму беларусізацыі Праваслаўнай Царквы паміж кіраўнікамі Мінскай епархіі і тагачасным кіраўніцтвам БССР, пасля рэпрэсаваным, былі. Цалкам верагодна, што ўлады рэспублікі абяцалі епіскапам падтрымку ў легалізацыі аўтакефаліі.

У 1927 годзе беларускія спецслужбы не перашкаджалі стварэнню аўтакефаліі, а нават, як лічыць даследчык святар Фёдар Крыванос, спрыялі. Гэта не азначае, аднак, што абвяшчэнне аўтакефаліі было інспіраванае спецслужбамі: яны праз завербаваных вернікаў толькі падштурхоўвалі арганізатараў на месцах да больш рашучых дзеянняў. У дакладзе, адпраўленым у Маскву 1 студзеня 1928 года за подпісамі намесніка старшыні беларускага ДПУ Заліна і начальніка Сакрэтнага аддзела Собалева, гэтая дзейнасць адлюстраваная наступным чынам: «Даводзілася прымаць самыя разнастайныя меры, адшукваць разнастайныя спосабы і захоўваць асаблівы такт лавіравання, каб у выніку праз дапамогу бабруйскага епіскапа Філарэта (Раменскага) схіліць большасць ціханаўцаў да аўтакефаліі».

Варта адзначыць, што да інфармацыі спецслужбаў па ўсіх пытаннях, і асабліва звязаных з праблемамі царкоўнага жыцця, трэба ставіцца вельмі асцярожна. На працягу ЎСЯГО перыяду савецкай улады любыя царкоўныя арганізацыі разглядаліся як патэнцыйны вораг. Адпаведна, пазітыўных характарыстык (ворагам і іх дзеянням) у матэрыялах спецслужбаў у прынцыпе не можа быць.

## Абвяшчэнне аўтакефаліі

Абвяшчэнне аўтакефаліі адбылося на Беларускім Епархіяльным З'ездзе духавенства і свецкіх у Мінску 9–10 жніўня 1927 года. Старшынёй з'езда быў абраны епіскап Філарэт (Раменскі), у прэзідыум — протаіерэі Стэфан Кульчыцкі, Міхаіл Навіцкі, Дзмітрый Паўскі і свецкі чалавек Іосіф Ясінскі. Сакратарамі з'езда абралі протаіерэя Антонія Кіркевіча і псаломшчыка Сяргея Буцько. Дэлегаты з'езду прадстаўлялі 333 прыходы з Мінскай, Барысаўскай, Слуцкай, Мазырскай, Бабруйскай акругаў



Мінская Пакроўская (Крыжовая) царква і дом архіерэя, дзе ў 20-я гады XX ст. жыў мітрапаліт Мелхіседэк Паеўскі. Цяпер на гэтым месцы Цэнтральны Дом афіцэраў

і аднаго дабрачыння Аршанскай акругі. Удзельнікі з’езду пастанавілі «абвясціць Беларускую Царкву аўтакефальнай» і разаслаць адпаведнае інфармацыйнае пасланне. З’езд даслаў у адрас ЦВК БССР Чарвякову прывітальную тэлеграму.

Рашэнне з’езду было выканане. Пасланне, аўтарам якога, меркавана, з’яўляецца протаіерэй Стэфан Кульчыцкі, было надрукавана ў колькасці 1000 асобнікаў. У пасланні было сказана:

«...Роўна пяць гадоў таму, у адзін з самых вострых момантаў разрухі царкоўнай, у пару безладдзя ў Царкве і нараджаючайся абнаўленчай смуты, у Мінску ў асяроддзі людзей Царквы ўзнікла думка засцерагчы сваю мясцовую Царкву ад цяжкіх узрушэнняў, высунуўшы ў якасці збаўчага якара ідэю самабытнасці Беларускай Царквы і Яе права на нацыянальнае самавызначэнне. Здаровы царкоўны інстынкт самазахавання і прагрэсіўнае цячэнне рэлігійнай думкі гарманічна спалучаліся ў гэтым ідэйным руху, тым не менш акт абвяшчэння Беларускай мітраполіі 23 ліпеня 1922 года, радасна сустрэты ўсім праваслаўным насельніцтвам Мінскага краю, быў падарваны ў сваёй сапраўднай сутнасці засіллем абнаўленства, і таму не даў дабрадзейных для Царквы вынікаў... Стаўленне кіруючых царкоўных сфер у Маскве да гэтага пытання насіла характар пераменлівы і непастаянны, прымаючы то форму схільнасці (пры нябожчыку патрыярху), то форму відавочнай непрыязнасці (пры яго Месцаахоўніку)... У адказ на магчымы ў нашы дні паклёп і знявагу Беларускі з’езд смела ўзвышае свой голас і заяўляе: мы перакананыя і ўстойлівыя ў сваіх праваслаўных поглядах і вераваннях старацаркоўнікі. Мы памятаем пра вечнае выратаванне сваёй душы і жадаем дабра сваёй роднай Царкве. Але ў той жа час мы верым, што няма ні аднаго народа, які мог бы расцэньвацца як пусты і абыякавы матэрыял царкоўнага жыцця, і якому магло б быць адмоўлена ў праве на свабоднае развіццё ў якасці жывога і дзейнага члена сусветнага цела Хрыстовага».

У «Актах Беларускага Епархіяльнага з’езду» ёсць дакумент, які сведчыць, што ўдзельнікі з’езду спадзяваліся на вяртанне мітрапаліта Мелхіседэка ў Беларусь. З дэлегатаў з’езду вылучылі некалькі чалавек і з адпаведным зваротам ад імя з’езду адправілі ў ЦВК БССР да Чарвякова з просьбай «аказаць садзейнічанне ў вяртанні ў Мінск мітрапаліта Мелхіседэка, як першаіерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы». Як лічыць святар Фёдар Крыванос, «у АДПУ вялі сваю гульню: вяртанне Мелхіседэка з’явілася адным з ілжывых абяцанняў, дадзеных чэкістамі епіскапу Філарэту ў абмен на абвяшчэнне аўтакефаліі».

Пасля абвяшчэння аўтакефаліі ўлады савецкай Беларусі паставіліся да гэтага досыць добразычліва, дазволілі друкаванне Дэкларацыі. Было адноўленае ліквідаванае ў 1924 годзе епархіяльнае ўпраўленне, апублікаваны Статут БАПЦ — «Статут Саюза Праваслаўных старацаркоўных суполак у сваім адзінстве складаючых Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву». Але прыхільнасць уладаў да БАПЦ працягвалася не больш за паўгода.

## Непрызнанне

Маскоўская патрыярхія беларускай аўтакефаліі не прызнала. Яшчэ 13 ліпеня 1927 года мітрапаліт Сергій прызначыў у Мінск замест мітрапаліта Мелхіседэка епіскапа Арсеня (Смаленца), які калісьці пасля ўладыкі Мелхіседэка ўзначаліў Бялыніцкі манастыр і які служыў разам з ім ва Уладзікаўказе. Епіскап Арсень быў чалавек непадкупны, сумленны, высокай прынцыповасці і паслядоўнасці. Разабраўшыся ў сітуацыі, ён 30 жніўня напісаў прашэнне аб адстаўцы, і ва ўзросце 54 гадоў быў звольнены «на супакой».

Але непрызнаная аўтакефалія развівалася, нягледзячы на ціск з усіх бакоў. 19 снежня 1928 года абнаўленчы мітрапаліт Данііл (Грамавенка) пісаў прадстаўніку Сусветнага Патрыярха ў СССР архімандрыту Васілю Дзімапуле пра беларускіх аўтакефалістаў: «Яны маюць мноства храмаў і веруючых чад Беларускай Царквы. Цэлая армія кліру, ашуканая і падманутая, цягнецца за імі, асепленая страхам страціць праваслаўе. Наш голас, які абхоплены паклёпам іх правадыроў, застаецца для гэтых клірыкаў і веруючых чад голасам неправаслаўя, а часам больш таго, голасам д’ябла».

У гэты час БАПЦ мела, па дадзеных ДПУ БССР, перададзеных у Маскву: 192 прыходаў у Мінскай акрузе, 20 — у Аршанскай, 1 — у Віцебскай, 40 — у Мазырскай, 100 — у Бабруйска-Рагачоўскай, 2 — у Полацкай, 24 — у Гомельскай. На баку мітрапаліта Сергія ў Мінскай епархіі было толькі 3 прыходы. Усяго ў БССР на той час у БАПЦ неслі службу 399 святароў.

Падтрымка з боку беларускага кіраўніцтва цалкам скончылася ў 1929 годзе разам з палітыкай беларусізацыі. Не было згоды Маці-Царквы на аўтакефалію, беларускія аўтакефалісты не атрымалі падтрымкі Сусветнага Патрыярха, які ў гэты час сімпатызаваў абнаўленцам. 5 кастрычніка 1927 года мітрапаліт Сергій (Страгародскі) забараніў епіскапа Філарэта (Раменскага) і духавенства, якое далучыліся да яго, у набажэнствах.

## «Справа БАПЦ»

Улетку 1937 года НКУС БССР раскрыў «контррэвалюцыйную арганізацыю» «Беларуская аўтакефальная царква». Былі рэпрэсаваныя практычна ўсе прыхільнікі аўтакефаліі.

Версія стварэння арганізацыі, што прыводзіцца ў крымінальнай справе, мала адпавядае рэальным падзеям. Паводле яе, арганізацыя «Беларуская аўтакефальная царква» пачала фармавацца яшчэ падчас нямецкай акупацыі ў 1919 годзе і да сярэдзіны 1930-х гадоў складалася з 13 гуртоў, якія размяшчаліся ў Асіповіцкім, Барысаўскім, Клічаўскім, Мінскім, Пухавіцкім, Смалявіцкім, Смілавіцкім, Чавускім раёнах Беларусі і ў самім Мінску.

У арганізацыю залічылі 2 епіскапаў, 30 святароў, 170 вернікаў, названых кулакамі і былымі царскімі чыноўнікамі. Кіраўніком арганізацыі прызначылі епіскапа Філарэта (Раменскага), у кіруючы цэнтр уключылі 12 чалавек: абнаўленчага архіепіскапа Апанаса (Вячорку), святароў Мінскай царквы Св. Марыі Магдаліны Антонія Кіркевіча, Стэфана Кульчыцкага, Міхаіла Рубановіча, рэгента гэтай царквы Паўла Вяршынскага, дыякана гэтай жа царквы Уладзіміра Лобача і яго жонку Веру Лобач-Урбановіч, святара царквы ў Дзяржынску Сергія Садоўскага, ужо былога на гэты час дыякана Якава Бараноўскага, сястру епіскапа Філарэта Марыю Раменскую, дваіх прыхаджан — бухгалтара Аляксандра Наўроцкага і Надзею Пуйман, жонку калгаснага бухгалтара.

У сябры арганізацыі быў залічаны і мітрапаліт Мелхіседэк, на гэты час ужо нябожчык, які нібыта ў свой час ажыццяўляў сувязі з Польшчай, асабіста з Пілсудскім і польскімі спецслужбамі. У НКУС БССР разглядалі святароў аўтакефальнай царквы як стаўленікаў мітрапаліта Мелхіседэка, польскімі шпіёнамі. Епіскапа Філарэта і іншых арыштаваных спецыяльна дапытвалі пра падрабязнасці жыцця мітрапаліта Мелхіседэка і сувязях з гэтым. Запісаныя следчымі пратаколы гэтых допытаў захоўваюцца ў Цэнтральным Архіве КДБ Беларусі. Прывядзём урывак з допыту епіскапа Філарэта 2 жніўня 1937 года:

«ПЫТАННЕ: Калі вы пазнаёміліся з пілсудчыкам мітрапалітам Мелхіседэкам?

АДКАЗ ЕПІСКАПА ФІЛАРЭТА: З мітрапалітам Мелхіседэкам я пазнаёміўся ў сакавіку 1919 года ў Мінску, у яго кватэры. Пры белапаляках я бываў у мітрапаліта Мелхіседэка на прыёмах... Блізка з Мелхіседэкам я пазнаёміўся ў 1921 годзе, некалькі разоў заходзіў да яго на кватэру і гутарыў з ім сам-насам. У той час я служыў у чыгуначнай гімназіі і ў Інстытуце народнай адукацыі.

ПЫТАННЕ: Што ж у вас было агульнага, што вас тады звязвала з Мелхіседэкам?

АДКАЗ: Я хадзіў да яго як стары знаёмы, каб пагаварыць з ім.

ПЫТАННЕ: Вы ж раней сказалі, што ў Мелхіседэка бывалі на афіцыйных прыёмах і па неабходнасці. Удакладніце паказанні.

АДКАЗ. Я з мітрапалітам Мелхіседэкам сышоўся блізка дзякуючы агульнасці ідэйнай...

ПЫТАННЕ: Скажыце, якія сувязі меў Мелхіседэк з «АРА»?

АДКАЗ: АРА дапамагала духавенству па дамоўленасці з мітрапалітам Мелхіседэкам. Усяго чалавек 17 атрымалі прадукты харчавання, тканіны.

ПЫТАННЕ: Вы стаўленік пілсудчыка Мелхіседэка?

АДКАЗ: Мітрапаліт мяне высвеціў у дыяканы, папы і епіскапы. У папы я высвечаны ў 1921 годзе, у епіскапы ў сакавіку 1923 года...»

Даследчыкі пішуць, што ўладыка Філарэт не быў па характары героем — спецслужбы адзначалі яго як «слабавольнага і баязлівага». Разам з тым найбольш яркія старонкі гісторыі БПЦ звязаныя з яго імем. Да 1930 года ён служыў у Мікалаеўскім саборы ў Бабруйску. Потым у Екацярынінскім саборы на Нямізе ў Мінску, Свята-Іаанаўскай царкве вёскі Вялікая Сляпянка (цяпер Мінск). З 1934 года — у храме Св. Марыі Магдаліны ў Мінску.

У сярэдзіне 1935 года епіскап Філарэт даў згоду на аб’яднанне з Праваслаўнай Расійскай Царквой, прынёс пакаянне і мітрапалітам Сергіем (Страгародскім) быў прыняты ў зносіны з ПРЦ. Афіцыйна «беларускі аўтакефальны раскол» скончыўся.

У гэты час беларускія святары-аўтакефалісты ўжо не разглядалі каталікоў як сваіх лютых ворагаў. Пасля арышту ксяндзоў, абвінавачаных у шпіянажы на карысць Польшчы, каталікі сталі наведваць аўтакефальную царкву Св. Марыі Магдаліны, праваслаўныя святары дазвалялі служыць тут і немясцовым ксяндзам. Епіскап Філарэт даў дазвол святарам хрысціць дзяцей католікаў, па жаданні бацькоў даваць ім каталіцкія імёны.

Зносіны з каталікамі былі асновай абвінавачання праваслаўных святароў у шпіянажы на карысць Польшчы, а таксама ў тым, што яны «па ўказанні Раменскага праводзілі на практыцы ўнію з рымска-каталіцкай царквой, прыцягвалі да царквы антысавецкі актыў каталікоў».

Пастановай Асобай тройкі НКУС БССР ад 25 кастрычніка 1937 года 11 кіраўнікоў «арганізацыі» былі прысуджаныя да расстрэлу, і 1 лістапада 1937 года былі расстраляныя ў Мінску. Лобач і Пуйман былі асуджаныя на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў.

Тое, што знішчаныя вернікі не вінаватыя, дзяржава прызнала праз 20 гадоў. Сястра епіскапа Філарэта была рэабілітаваная 11 сакавіка 1958 года. Духавенства было рэабілітаванае толькі з пачаткам развалу СССР: епіскап Філарэт рэабілітаваны 31 сакавіка 1989 года.

## Канец — не канец?

Гісторыя абвяшчэння БАПЦ расстрэламі і смерцю яе першых заснавальнікаў не скончылася. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі ў жніўні 1942 года адбылося новае абвяшчэнне БАПЦ. Мітрапаліт Панцялейман (Ражноўскі) на ўмовах акупацыі ўзначаліў Праваслаўную Царкву на тэрыторыі заснаванага Германіяй Генеральнага камісарыята Беларусь. У сакавіку 1942 года разам з епіскапам Венедыктам (Бабкоўскім), на Саборы Беларускай Праваслаўнай Царквы ён заснаваў Беларускую мітраполію і стаў мітрапалітам.

Лічыцца, што Панцялейман адмоўна ставіўся да абвяшчэння аўтакефаліі, на якім настойвалі нямецкія ўлады, за што і быў сасланы ў манастыр у Лядах (Смалявіцкі раён Мінскай вобласці). Разам з тым Сабор пад кіраўніцтвам епіскапа Філафея (Нарко), якога хіратанізаваў мітрапаліт Панцялейман, нанова абвясціў БАПЦ 30 жніўня 1942 года. Удзел у Саборы з правам голасу бралі 3 епіскапы, 65 святароў і 65 прадстаўнікоў ад вернікаў. Сабор прыняў рашэнне разаслаць інфармацыю пра абвяшчэнне БАПЦ усім Праваслаўным аўтакефальным цэрквам і папрасіць іх прызнання. Але па розных прычынах гэтага зроблена не было. Пасля гэта было выкарыстана як адсутнасць новага абвяшчэння БАПЦ.

Па заканчэнні вайны кіраўнікі БАПЦ эмігравалі ў Германію. Частка з іх далучылася да Рускай Праваслаўнай Царквы за мяжой (як мітрапаліт Панцялейман, епіскап Філафей), частка ў 1948 годзе зноў абвясціла пра стварэнне БАПЦ, але за межамі Беларусі — прыходы БАПЦ і да сёння існуюць у Аўстраліі, ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі. Беларуская праваслаўная царква, што засталася ў Беларусі, з’яўляецца часткай Маскоўскага патрыярхату на правах экзархата.

Але мары стварыць самастойную Беларускую Праваслаўную Царкву застаюцца. Час ад часу пытанне аб стварэнні БАПЦ узнікае ў кіраўніцтве экзархату, але пасля адмоўнага адказу з Масквы яно здымаецца. Сучасны кіраўнік БПЦ мітрапаліт Павел сказаў, што на бягучыя 50 гадоў.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Рэфармуюць гімн?

У польскай прэсе з'явіліся публікацыі з прапановай змяніць польскі гімн. Цяпер у якасці гімна палякі спяваюць «Марш Дамброўскага» (ці «Мазурка Дамброўскага»), які быў напісаны прыкладна 220 гадоў таму. Але кансерватары ўзгадалі, што ў тэксце гімна няма згадак пра Бога. Такая сітуацыя, на іх думку, ненармальная, паколькі Польшча — каталіцкая краіна. Прыхільнікі змены гімну таксама нагадваюць, што ў свой час у «Маршa Дамброўскага» хапала канкурэнтаў. Нездарма пасля атрымання Польшчай незалежнасці ў 1918-м пытанне гімну адклалі аж да 1927 года. Тое, што «Маршу Дамброўскага» не было альтэрнатывы, тлумачыцца тым, што Сейм на той час быў пад кантролем Пілсудскага, які пралабіяваў сімпатычную яму мелодыю. Атрымліваецца, што дэмакратычных дэбатаў наконт гімну ў Польшчы ніколі не было, і самы час іх пачаць. Лічыцца, што «Мазурку Дамброўскага» можа замяніць такі музычны твор, як «Boże, coś Polskę». Увогуле, падаецца, тэкст гімну — толькі пачатак дэбатаў наконт змены польскіх дзяржаўных сімвалаў. Таксама гучаць прапановы зрабіць гербам краіны каталіцкі крыж.

**Паводле польскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Тэнге — 25 гадоў

У Казахстане шырока адзначаюць юбілей нацыянальнай валюты, якую ўвялі ў лістападзе 1993-га. Адначасова сталі вядомыя цікавыя акалічнасці. Напрыклад, тое, што дызайн першых купюр рабілі ў абстаноўцы строгай сакрэтнасці. Мастакоў ізалявалі на пару месяцаў на дзяржаўным аб'екце. Баяліся, што чуткі пра новыя грошы выклічуць паніку сярод насельніцтва. Дарэчы, менавіта тыя мастакі намалявалі першае пакаленне банкнот, якое называецца «Партрэтная серыя». Але партрэтам на банкнотах радаваліся нядоўга: народу не падабалася, што партрэты паважаных людзей — навукоўцаў, кіраўнікоў, паэтаў — мнуць і пэцкаюць у руках. Таму ад партрэтаў вырашылі адмовіцца. На старце сваёй гісторыі тэнге вельмі паважалі. Магчыма, усё праз ліміт абмену савецкіх рублёў на казахскія грошы. Дайшло да таго, што калым за нявесту можна было плаціць толькі ў тэнге. Але ўжо ў студзені 1994-га сітуацыя змянілася — тэнге зваліўся адносна долара з 4 да 70. На сёння долар каштуе 370 тэнге. Пасля гэтага стаўленне да тэнге з боку казахаў дастаткова іранічнае. «Калі не можаце заснуць, лічыце не баранаў, а тэнге», — гаворыцца ў адным з мясцовых анекдотаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Канец «Lindenstraße»

Падобна, што ўпершыню за апошні час немцы значна больш гавораць не пра палітыку, а пра рашэнне стваральнікаў серыяла «Lindenstraße». Яны вырашылі закрыць праект у сакавіку 2020-га. Цікавасць да тэмы тлумачыцца тым, што «Lindenstraße» — гэта нямецкі аналаг «Санта-Барбары», які цягнецца аж з 1985 года. Героі серыяла — жыхары вуліцы Lindenstraße — знаёмыя цэлым пакаленням. Пры гэтым па ходзе росту папулярнасці серыялу яго статус змяніўся. У кіраўніцтве канала, які належыць дзяржаве, прадукт пачалі разглядаць як важны інструмент агітацыі за свабоду меркаванняў, дэмакратыю, роўныя правы і гэтак далей. Неўзабаве ў «Lindenstraße» з'явіліся прадстаўнікі нацыянальных і сексуальных меншасцяў. Адначасова ролю галоўнага адмоўнага персанажа ўзяў на сябе чалавек з відавочнымі праварадыкальнымі поглядамі. Менавіта такая палітыка і загубіла серыял, пішуць правыя СМІ. На іх думку, гледачу надакучыла быць аб'ектам выхавання. Аднак большасць культуролагаў бачаць у апошніх падзеях, хутчэй, агонію тэлебачання, якое прайграе інтэрнэту. Самі аўтары праекту кажуць, што той проста вычарпаў сябе. Зрэшты не выключана, што хаваць «Lindenstraße» рана. Так ці інакш, у яго салідная армія прыхільнікаў, якія ўжо паабяцалі выйсці на абарону.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Як зславіць літоўскага шпіёна?

Як спробу ўзняць пытанне дзяржаўнай прыналежнасці Калінінграду ацанілі расійскія патрыёты нядаўнюю публікацыю ў літоўскім выданні «Respublika» артыкула «Літоўскі край у замежных руках» пад аўтарствам палітолага Бенаса Валадзкі. Аўтар тэксту піша, што на Патсдамскай канферэнцыі Кёнігсберг быў перададзены СССР толькі на 50 гадоў. Гэты тэрмін скончыўся ў 1995 годзе. Такім чынам, трэба перагледзець статус Калінінградскай вобласці, якую літоўцы лічаць сваёй і называюць «Малая Літва». У Расіі такія заявы расцанілі як спекулятыўныя, і спасласіся на дамову, якую ФРГ падпісала з СССР у 1990 годзе. У гэтым дакуменце, у прыватнасці, сказана: «Аб'яднаная Германія не мае ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да іншых дзяржаў і не будзе вылучаць такіх прэтэнзій і ў будучыні». Акрамя таго, як звычайна ў расійскай прэсе, уздымаецца пытанне прыналежнасці Вільні ды Клайпеды. Ёсць і тыя, хто лічыць рускіх, якія выступаюць за перайменаванне Калінінграда ў Кёнігсберг, ледзь не літоўскімі шпіёнамі. Пры чым тут назва «Кёнігсберг», калі літоўцы называюць гэты горад «Караляўчус», не зразумела.

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.timeslive.co.za

# «Стоп-бензін» па-французску

Алег НОВІКАЎ

**Сотні тысяч чалавек будуюць барыкады, перакрываюць дарогі, учыняюць бойкі з паліцыяй, разбураюць і падпальваюць машыны, збіваюць кіроўцаў. Кіроўцы ў адказ тараняць натоўпы пратэстоўцаў. Так выглядае нязгода «жоўтых камізэлек» з новым падаткам на паліва. Францыю ахапілі пратэсты. Пра іх асаблівасці ў інтэрв'ю «Новаму Часу» распавядае французскі журналіст Аляксандр Чукаеў.**

***— У мінулую суботу каля 290 тысяч чалавек блакавалі аўтамагістралі, і нават гіпермаркеты. Паліцыя паведамляе пра 400 сутычак. Ёсць і ахвяры — у Савоі машына пераехала жанчыну. Ці можна казаць, што пратэсты супраць новага падатку на бензін — сацыяльны феномен?***

— Наўрад ці. На думку гісторыкаў, першая акцыя пратэсту ў Францыі супраць росту коштаў на бензін датуецца 1933 годам. У 1970-я, калі Захад перажыў так званы «нафтавы шок» і падняліся цэны на запраўках, французскія аўтааматары таксама блакавалі трасы. Таму, хутчэй, феномен «жоўтых камізэлек» перш за ўсё ў тым, што яго выклікала звычайная пратэстная петыцыя ў інтэрнэце, якую напісалі ўладальнік крамы і кіроўца грузавіка. Іх заклік пратэставаць супраць новых коштаў (з наступнага года бензін падаражэе яшчэ на 3 цэнты, дызпаліва — на 6,5 цэнта) нечакана знайшоў фантастычную падтрымку ў сецыве. Гэта дало штуршок да першых пратэстаў 9 лістапада, удзельнікі якіх спантанна надзелі жоўтыя камізэлькі (такія камізэлькі абавязковыя ў Францыі ва ўсіх аўтамабілях і матацыклах). На працягу двух тыдняў рух нечакана ахапіў усю краіну.

***— Улады называюць новы падатак экалагічным. На іх думку, ён дапаможа змагацца са зменамі клімату, прымусіць людзей купляць электрамабілі. Якую пазіцыю займаюць наконт пратэстаў экалагі?***

— Сярод экалагаў няма агульнага меркавання на гэты конт. Некаторыя, у тым ліку такія, як Даніэль Кон-Бендзіт, лічаць, што толькі так можна спыніць змяненне клімату. Дзе-нідзе супраць «жоўтых камізэлек» пратэставалі роварысты. Іншыя экалагі падтрымліваюць блакады. На іх думку, адмова ад дызелю, пераход на экалагічныя машыны магчымыя толькі ў выпадку, калі пакупніцкая здольнасць у насельніцтва будзе высокай. Для гэтага падаткі трэба не павышаць, а зніжаць. Рух Réseau Action climat зрабіў заяву пра тое, што Макрон хутчэй маніпулюе тэмай экалогіі. Урад падвышае цэны для насельніцтва, аднак не кранае авіякампаніі, якія выкарыстоўваюць тое ж самае паліва. З пазіцыі справядлівага прынцыпу падаткаў пратэст падтрымліваюць таксама левыя партыі і прафсаюзы.

***— Які сацыяльны базіс у руху «жоўтых камізэлек»? Як ён выглядае арганізацыйна і структурна?***

— Сацыялогія кажа, што «жоўтыя камізэлькі» — пераважна бунт правінцыі. Ці, хутчэй, гнеў правінцыі, дзе людзі ўспрымаюць усё больш эмацыйна. Сяляне вымушаныя шмат перасоўвацца, дабірацца штодня ў горад на працу, і таму павышэнне коштаў ударыла па ўсіх. У гарадах пратэст падтрымліваюць сацыяльныя групы кшталту пенсіянераў ці наёмных работнікаў, што традыцыйна пакрыўджаныя на эліту. Ніякіх структур і прадстаўнікоў у руху няма. Аднак у яго ёсць магутная падтрымка сярод інтэлектуалаў і журналістаў, якія заклікаюць уладу пачуць голас народа.

***— Як улада рэагуе на пратэсты?***

— Прэзідэнт Эмануэль Макрон пакуль дыстанцыяваўся ад гэтай праблемы і пераклаў адказнасць на прэм'ера. 18 лістапада прэм'ер заявіў, што ўлада не будзе адступаць. На думку некаторых каментатараў, ва ўрадзе спадзяюцца, што ініцыятыву на пікетах захопяць радыкалы. Іх бойкі з паліцыяй прымусяць простых людзей пакінуць пікеты. Аднак гэта — пакуль пажаданні. Між тым, масавая незадаволенасць ужо адбіваецца на рэйтынгу Макрона, які за тыдзень страціў амаль 4 пункты. Яго папулярнасць на цяперашні дзень ужо ніжэй за 25 працэнтаў.

***— Пратэсты пачаліся напярэдадні стагоддзя заканчэння Першай сусветнай вайны. У рамках урачыстасцяў з нагоды юбілею Макрон нечакана заявіў, што маршал Петэн (кіраўнік прагітлераўскага рэжыму Вішы) з'яўляецца «сапраўдным жаўнерам». Ці можна гэта разглядаць як спробу Макрона знайсці сабе новы электарат?***

— Напэўна, такія намеры ёсць. Нездарма адзін з дэпутатаў партыі Макрона днямі падтрымаў законапраект абавязаць імігрантаў у Францыі мяняць імёны на французскія. Аднак у правай Францыі ёсць свае куміры, і наўрад ці яна будзе бегчы ў лагер прэзідэнта. Так ці інакш, перспектывы Макрона шмат у чым будуць залежаць ад таго, ці вытхнецца ў хуткім часе пратэст «жоўтых камізэлек». Адказ на гэтае пытанне дасць бліжэйшы ўік-энд, на які абвешчаная новая мабілізацыя. У тым ліку «жоўтыя камізэлькі» абяцаюць цалкам заблакаваць Парыж.

# Такі розны Аляксандр Ісаевіч

Алег НОВІКАЎ

**Чым бліжэй 11 снежня, тым больш катэгарычна постсавецкая прастора падзяляецца наконт стаўлення да Салжаніцына, стагоддзе з дня нараджэння якога адзначаецца ў гэты дзень.**




Фота www.kramola.info




Фота www.rossaprimavera.ru

Эмоцыі пачалі зашкальваць задоўга да юбілею. У пачатку кастрычніка на сцяне дома ў Цверы з'явіўся партрэт Салжаніцына з яго цытатай «Жыць не па хлусні!». Партрэт на будынку застаўся незавершаны, паколькі аўтара затрымалі падчас нанясення малюнку на фасад. Акрамя таго, графіці выклікала абурэнне ў мясцовых жыхароў, нехта з іх нават пакінуў пад малюнкам надпісы «здраднік» і «Іуда». Нарэшце да ўсеагульнай незадаволенасці падключыўся адзін з цвярскіх камуністаў, якому ў мэрыі абяцалі прыняць захады «па ліквідацыі графічнага малюнка А.І. Салжаніцына».

Расправа над графіці ў Цверы рэзка кантрастуе з дыскурсам улады. У Маскве да 100-годдзя з дня нараджэння Салжаніцына, згодна з указам кіраўніка краіны, збіраюцца адкрыць новы помнік. Цэнтрабанк РФ у межах серыі «Выдатныя асобы Расіі» ўжо выпусціў памятную сярэбраную манету з выявай пісьменніка. Чакаецца вялікая колькасць выстаў, канферэнцый, круглых сталоў, тэматычных урокаў у школах па ўсёй Расіі.

Аднак відавочна, што для шмат каго з расіян Салжаніцын застаецца ворагам. Вельмі папулярны міф, што ў сваіх творах пісьменнік апраўдваў уласаўцаў і бандэраўцаў, лічбы пра рэпрэсіі ў СССР браў са столі, а таксама заклікаў да прэвентыўнай вайны ЗША з СССР. Крытыкі ўпэўненыя, што ачарненне Салжаніцыным савецкай гісторыі па інерцыі наносіць удар і па сучаснай Расіі. Таму да 11 снежня яны выйшлі з сустрэчнай прапановай — выключыць творы Салжаніцына з расійскай школьнай праграмы.

Расійскія патрыёты, напэўна, былі б вельмі здзіўленыя, калі б даведаліся, што на Захадзе некаторыя, наадварот, лічаць Салжаніцына ледзь не дэміургам сучаснай Пуцінскай Расіі. Такую выснову можна зрабіць, напрыклад, з артыкула «Давайце не забывацца на панславянскую ідэалогію і антысеміцкую рыторыку Аляксандра Салжаніцына». Згаданы тэкст, што напісаў Андрэ Маркавіч, апублікавала днямі французская «Le Monde».

Сапраўды, публіцыстыка Салжаніцына ў эміграцыі і ў апошнія гады жыцця шмат у чым карэлюецца з тэзісамі агітпропу Пуціна. У 1970-я гады Салжаніцын абвінавачваў Захад у матэрыяльным спажыванні і духоўнай дэградацыі, вытокі якой шукаў у часах Адраджэння і Французскай рэвалюцыі.

Адным са страшных грахоў Захаду ў вачах аўтара «Архіпелага ГУЛАГа» быў грэх плюралізму. У сваёй працы «Нашы плюралісты» (1984) ён крытыкаваў гэты адзін з самых важных інстытутаў дэмакратыі. «Плюралізм» як прынцып дэградуе да абыякавасці, да страты ўсялякай глыбіні, расцякаецца ў рэлятывізм, у бязглуздзіцу, у плюралізм памылак», — пісаў Салжаніцын. Падобныя развагі часцяком упісваліся ў ідэю месіянскай ролі славянства і праваслаўны догмат. У гэтым плане галоўная віна бальшавікоў, на думку пісьменніка, заключалася не ў тым, што яны знішчылі органы дэмакратыі. Галоўная віна Леніна была, маўляў, у тым, што ён пераключыў увагу рускага народа з вечных сакральных тэм на ўтопію.

Акрамя таго, Нобелеўскі лаўрэат не верыў у магчымасць эмансіпацыі габрэяў аж да падтрымкі ідэі мяжы аселасці. Мяжа аселасці, як пісаў Салжаніцын, не дазваляла габрэям хлынуць у цэнтральную Расію, каб канчаткова алкагалізаваць рускі народ. Паводле гэтай логікі, не дзіўна, што Кастрычнік 1917 года разглядаўся як прадукт габрэйскай канспірацыі.

Нарэшце, Салжаніцына можна смела запісваць у апосталы канцэпту «рускага свету». У 1990 годзе накладам у 20 мільёнаў асобнікаў выйшаў яго маніфест «Як нам уладкаваць Расію», які быў поўны шавіністычных і імперскіх выдумак, насіў яўна абразлівы характар для многіх народаў былога СССР. Пазней у артыкуле «Пасварыць родныя народы» ён зрабіў замах на адзін з пастулатаў цяперашняй украінскай дзяржавы — паставіў пад сумнеў факт Галадамору, генацыду ўкраінцаў у 1932–1933 гадах. У прынцыпе, ён наогул не бачыў украінцаў і беларусаў як суверэнныя нацыі, якія могуць заставацца па-за расійскім імперскім праектам.

«У той час, калі распаўсюд у Еўропе і ва ўсім свеце нацыяналізму набывае самы раскаваны характар, афіцыйная фармулёўка даніны павагі Аляксандру Салжаніцыну, здаецца, самай найменшай праблемай. Але як мы павінны растлумачыць наша маўчанне наконт гэтага антысемітызму?» — заключае аўтар артыкула ў «Le Monde».

Ёсць у Маркавіча і апаненты. Яны заклікаюць не разглядаць Салжаніцына ў рамках дыхатаміі — ці Захад, ці дыктатура. Так, Салжаніцын патрабуе ўзвышэння этыкі, але гэта не супярэчыць свабодзе. Так, ён крытыкуе Захад, але гэта, хутчэй, парада. Так, яму падабаецца Расія, але, каб любіць іншых, вы павінны ўжо ведаць сябе і любіць сябе... Галоўная сутнасць Салжаніцына ў тым, што ён апынуўся голасам зняважаных, выхадам з таталітарнай ночы, надзеяй для тых, хто выжыў. Адным словам, давайце перш за ўсё памятаць, што без «Архіпелага ГУЛАГа» таталітарызм на Усходзе Еўропы існаваў бы значна даўжэй.

Ці сапраўды «Архіпелаг ГУЛАГ» апраўдвае позния антыдэмакратычныя забабоны Салжаніцына, а сам ён, па сутнасці, аказаўся ідэолагам рэжыму Пуціна? Думаецца, гэта не апошнія правакацыйныя пытанні, якія будуць узнятыя ў рамках юбілею. Рыхтуемся.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Віген Саркісян



На пачатку лістапада экс-міністр абароны Арменіі ўзначаліў армянскую апазіцыю, яго абралі кіраўніком выбарчага спісу Рэспубліканскай партыі (РПА) на выбарах у парламент 9 снежня.

Наогул, паняцце «рэспубліканцы» і «апазіцыя» падаюцца несумяшчальнымі. РПА 10 гадоў кіравала краінай, цалкам кантралявала ўсе галіны ўлады. Аднак перамога «Майдана» на чале з Ніколам Пашынянам пасунула РПА. Страціўшы ўладны рэсурс, рэспубліканцы аддалі ўсю ініцыятыву новаму ўраду. І вось упершыню з часу перамогі «Майдана» яны перайшлі ў контратаку.

Саркісян абвінавачвае Пашыняна ў няздольнасці абараніць краіну. Гаворка пра апошні скандал унутры АДКБ — арганізацыі, якая, як кажа Саркісян, дапамагае стабілізаваць карабахскі фронт.

Зрэшты, Саркісян не мае ілюзій. Ён згодны з сацыёлагамі, якія прагназуюць 9 снежня блоку Пашыняна «Грамадзянская дамова» ўпэўненую перамогу. Мяжа мараў цяперашняй РПА — заняць другое месца. Разлік будуецца на тым, што Пашынян так і не зможа перайсці да канструктыўных дзеянняў у галіне сацыяльнага забеспячэння, дапусціць памылкі пры падборы каманды, арыентуючыся толькі на асабістую лаяльнасць.

Дарэчы, будучыя выбары цікавыя праз прысутнасць у выбарчых спісах партыі «Сасна црэр». Яна была заснавана сябрамі аднайменнай узброенай групоўкі, якая захапіла летам 2016 года полк патрульна-паставой паліцыі ў Ерэване. Пасля яе сяброў арыштавалі, асудзілі і амніставалі ўжо ўлетку пры Пашыняне.

### Ані Лёф



35-гадовая старшыня шведскай Партыі цэнтру можа стаць першай у гісторыі краіны жанчынай на пасадзе прэм'ера. Дазвол на фармаванне ўраду Лёф надаў парламент адпаведнай рэзалюцыяй.

Праўда, насамрэч гэта нічога не азначае. Цэнтрысты атрымалі толькі 8,6 працэнта галасоў і маюць чацвёртую па колькасці мандатаў групу дэпутатаў. Да таго ж цэнтрысты традыцыйна ўваходзяць у так званы Альянс — блок чатырох правых і цэнтрысцкіх партый, якім супрацьстаіць левы блок з эсдэкаў, посткамуністаў і Зялёных. Ні левыя, ні правыя не маюць патрэбнай для стварэння кабінета большасці праз прысутнасць у парламенце вялікай групы ад правапапулісцкай партыі «Шведскія дэмакраты» (SD).

У свой час праз ксенафобскі профіль SD усе фракцыі парламенту вырашылі трымаць дыстанцыю ад правапапулістаў. Таму парламент Швецыі ўжо два месяцы заблакаваны і не можа прызначыць урад. На думку шмат каго, толькі Ані Лёф здольная вырашыць гэты рэбус. Будучы сябрам партыі, якая ўваходзіць у правы Альянс, ёй сімпатызуе шмат хто ў лагеры левых. Лёф неаднаразова асуджала праявы ксенафобіі ў краіне. З іншага боку, супярэчнасці паміж левымі і правымі ў Швецыі вельмі моцныя, і галасаваць за прадстаўніка іншага блоку лічыцца амаль здрадай.

Так ці інакш, у Лёф тры спробы дамагчыся вотуму даверу для свайго кабміну з боку парламенту. Інакш Швецыю чакаюць пазатэрміновыя выбары, якія будуць, дарэчы, на руку SD.

### Жазэп Барэль



Міністр замежны спраў Іспаніі яшчэ больш заблытаў сітуацыю вакол Brexit, выставіўшы Лондану ўльтыматум.

Мадрыд згодны адпусціць Вялікабрытанію з ЕС выключна пры адной умове — брытанцы павінны пагадзіцца, што ў будучым Іспанія атрымае права накладаць вета на любое рашэнне Лондану, якое тычыцца Гібралтару. Па сутнасці, гэта спроба вярнуць Іспаніі пэўны ўплыў на зону, якая належала Мадрыду да 1713 года.

Заява Барэля, натуральна, не спадабалася брытанцам. Прэм'ер-міністр Гібралтару катэгарычна адмаўляе ўсялякі перагляд цяперашняга статус-кво. Прадстаўнікі ЕС на перамовах з Брытаніяй таксама не падабаецца ўльтыматум Іспаніі. Па яго словах, тэма Brexit не тычыцца канкрэтных адносін паміж краінамі ЕС і Вялікабрытаніяй. Тым не менш, у Іспаніі ёсць моцны аргумент — мяжа паміж Ірландыяй і Англіяй, рэжым на якой таксама стаў прадметам перамоў Брусэля і Лондана.

На думку спецыялістаў, тэма Гібралтара наўрад ці так проста знікне. У Іспаніі хутка пройдуць рэгіянальныя выбары, ад вынікаў якіх шмат у чым залежыць будучыня сацыялістычнага ўрад у Мадрыдзе. Крытыкуючы сацыялістаў, правая апазіцыя актыўна прасоўвае лозунг «Гібралтар наш!».

23 лістапада 2018 | № 43 (606) Новы Час

# Патрыёт і пярэварацень:

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Ён пражыў два жыцці, за што параўноўваў сябе з пярэваратнем. Прайшоў шлях ад патрыёта Рэчы Паспалітай да распрацоўшчыка канцэпцыі ўсеагульнага славянскага адзінства. Скептычна ставіўся да хрысціянства і казаў пра эпоху язычніцтва як перыяд найбольшай згуртаванасці славян.**



З.Даленга-Хадакоўскі. Малюнак К.Прэка

Аяшчэ яму належыць ідэя Кургана Касцюшкі ў Кракаве, і менавіта ён устанавіў, што бітва 1067 года паміж Усяславам Полацкім і Яраславічамі адбылася на Нямізе каля Мінска, а не на Нёмане, як сцвярджаў Карамзін. Дзякуючы яму быў пакладзены пачатак актыўнага вывучэння народнай культуры ва Усходняй Еўропе і выкарыстання яе ў навуковых даследаваннях.

Адам Чарноцкі, вядомы як Зарыян Даленга-Хадакоўскі — пачынальнік славяназнаўства. Яго даследаванні мелі настолькі вялікі ўплыў, што Аляксандр Пушкін называў сябе «новым Хадакоўскім».

Адам нарадзіўся 24 снежня 1784 года пад Гайнай сённяшняга Лагойскага раёна ў сям'і збяднелага шляхціца Якуба Чарноцкага і Секундзіны Бародзіч.

Яго бацька працаваў аканомам і арандатарам у розных панскіх маёнтках. Паспеў нават паўдзельнічаць у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Марыў аб багацці, але ўсё жыццё судзіўся то са сваімі наймальнікамі, якія яго ашуквалі, то са сваякамі. У выніку, заклаў пад суды не толькі ўласныя мураваны дом і два пляцы на вуліцы Валоцкай у Мінску, але і пасажныя грошы жонкі, прызначаныя пасля яе смерці ў 1787 годзе «на навуку сына» Адама.

## Бедны родзіч багатых сваякоў

Першую адукацыю Адам атрымаў ад брата маці ксяндза Бародзіча, на якога хлопчыка пакінуў яго бацька, калі ў 1792 годзе выправіўся ў пошуках працы ў Мазовію. Пасля сваркі бацькі з сям'ёй жонкі, Адам апынуўся ў больш заможных сваякоў у Слуцкім павеце ў маёнтку Лецяшын — у віцебскага падстолія Ксаверыя Чарноцкага. Разам з дзецьмі апошняга Адам спачатку атрымоўваў хатнюю адукацыю, а затым адразу патрапіў у другі клас Слуцкага каталіцкага вучылішча.

За два гады навучання Адам прадэманстраваў незвычайныя здольнасці ў гісторыі і геаграфіі, моцна захапіўся кнігамі па старажытнай гісторыі. Сярод яго любімых заняткаў былі чытанне старых рукапісаў, якія захоўваліся ў хатнім архіве Ксаверыя Чарноцкага, і збіранне песень, казак і паданняў вясковага люду. Апошняе выклікала асаблівае непаразуменне з боку настаўнікаў, за што яго абразліва называлі летуценнікам.

Не маючы магчымасці быць сваім у асяродку заможных сваякоў, Адам адчуваў сябе сіратою і шмат часу праводзіў у вандроўках па вёсках Случчыны. Нездарма пазней ён называў сябе не інакш, як «простым селянінам», «тутэйшым» або «случчаком».

## Ад шчаслівай беднасці да несумленнага дастатку

У 1800 годзе Якуб Чарноцкі, абцяжараны шматлікімі судовымі справамі і пазыкамі, памёр. 16-гадовы Адам вымушаны быў клапаціцца пра дзяцей бацькі ад другога шлюбу — малодшага брата Фаўстына і сястру і Анэлю. Таму ў 1801 годзе, пасля заканчэння Слуцкага павятовага вучылішча, Адам пераехаў у Мінск, дзе ўладкаваўся хатнім настаўнікам і займаўся ўсім, што давала кавалак хлеба.

Маючы вялікую патрэбу ў фінансавых сродках, ён вырашыў стаць юрыстам, для чаго самастойна вывучыў прававыя навукі. У 1802–1804 годзе Адам жыў у Навагрудку, дзе праходзіў юрыдычную практыку, цікавіўся Статутамі Вялікага Княства Літоўскага.

У 1805 годзе ён нарэшце здаў экзамен па юрыспрудэнцыі, але замест таго, каб уладкавацца на працу, Чарноцкі ў першую чаргу накіраваўся ў Мінск і вырашыў справу па выкупе некалі закладзенага бацькам дома і перадаў яго сваім брату і сястры. Для гэтага Адаму прыйшлося шмат папрацаваць у архіве, дзе ён перапісваў дакументы і накіроўваў іх вядомаму польскаму вучонаму Тадэвушу Чацкаму, аўтару працы «Аб літоўскіх і польскіх правах...», якая паўплывала на фарміраванне светапогляду маладога Чарноцкага.

У сакавіку 1807 года Адам паступіў на працу да былога навагрудскага ваяводы Несялоўскага спачатку намеснікам упраўляючага, а затым і ўпраўляючым маёнтка ў Варончы. Нягледзячы на высокі заробак у 300 сярэбраных, ён не мог прыняць той сістэмы жорсткай эксплуатацыі сялян, якой вымушаны быў служыць. Нездарма ў альбоме свайго сябры ён запісаў: «Не служы, не служы прыватнай асобе, хоць ты павінен будзеш памерці з голаду! Блукаў я па свеце, быў бедным і шчаслівым. А зараз, маючы дастатак і службу, жадаю толькі памерці».

## Лёсавызначальная памылка

Блізкім сябрам Чарноцкага быў пляменнік графа Несялоўскага — Антон, які збег у Варшаўскае герцагства і перайшоў на службу ў напалеонаўскае войска. У адным з лістоў да яго Адам у лістападзе 1808 года выказаў жаданне таксама паступіць на службу да Напалеона, «каб служыць вызваленню любімай Айчыны». Але гэты ліст быў перахоплены царскай паліцыяй і паставіў крыж на далейшых планах Адама, які ў той час здзяйсняў мару свайго бацькі — аб заможным жыцці.

**Пасля паразы Напалеона Адам быў вымушаны хавацца. Праз Тураў з'ехаў на Валынь, дзе ўзяў сабе новае імя — Зарыян Даленга-Хадакоўскі, пад якім стаў вядомым навукоўцам**

24 сакавіка 1809 года Чарноцкі быў арыштаваны і адпраўлены на допыты ў Гродна, а ўжо 30 красавіка знаходзіўся ў Петрапаўлаўскай крэпасці Пецярбурга ў адзіночцы, маючы на харчаванне ўсяго па 20 капеек на дзень.

Месяцы, поўныя непаразумення, пакуль нарэшце 26 кастрычніка справа Адама не патрапіла ў палітычны камітэт, які займаўся пакараннямі ўцекачоў за мяжу. Чарноцкі абвінавачваўся ў «злым намеры» супраць дзяржавы, за што яму пагражала смяротнае пакаранне! Ён спісваў усё на зацямненне свядомасці, выкліканае хваробай, і ў адным з лістоў пісаў: «О Божа! У чым мая віна? Няўжо палітычныя погляды людзей нязменныя?.. Няўжо дзесяць месяцаў майго цярпення ў адзіночнай турме — недастатковая кара за некалькі недарэчных слоў прыватнага пісьма?»

Пяць тыдняў пасля суда Чарноцкі правёў у поўнай невядомасці, пакуль, нарэшце, з ласкі імператара Аляксандра II смяротнае пакаранне яму не было заменена пажыццёвай службай у салдатах. Апошні месяц 1809 года ён утрымліваўся ў камендантскай Зімовага палаца разам са звычайнымі злачынцамі, пасля чаго 31 снежня быў адпраўлены ў Ноўгарад. Тут яму паведамілі пра пазбаўленне шляхецтва і прызначэнне салдатам у 24-ю дывізію генерал-лейтэнанта Глазенапа ў Омск.

Па дарозе ён вёў запісную кніжку, названую «Мае падарожжа без ахвоты». На яе старонках Адам занатоўваў уласныя ўражанні ад наведаных мясцін, іх флоры і фаўны, апісанні звычаяў і строяў народаў, з якімі знаёміўся. У Омску Чарноцкі выдатна авалодаў рускай мовай, а ў 1811 годзе ў складзе дывізіі Глазенапа вярнуўся на Радзіму і 21 чэрвеня прыбыў у Бабруйск. Ішла падрыхтоўка да вайны з Напалеонам.

## Смерць Чарноцкага і з'яўленне Хадакоўскага

Чарноцкі не губляў часу, і ў верасні 1811 года збег з войска. Прычым, каб пачаць новае жыццё, імітаваў уласнае ўтапленне, пакінуўшы на беразе Бярэзіны адзежу. Улады палічылі гэта сведчаннем смерці, а знойдзеныя рэчы Адама перадалі ў маёнтак Лецяшын у Слуцкім павеце.

Сам жа Чарноцкі дабіраўся да Варшавы, дзе перадаў французам план Бабруйска і пад імем Зарыяна Любранскага паступіў на службу ў 5-ы пяхотны полк корпуса маршала Даву. У войску Адам выконваў сакрэтныя заданні: некалькі разоў пераходзіў праз Нёман, распаўсюджваў сярод сялян улёткі на беларускай мове супраць прыгоннага права, і нават выступаў пасрэднікам у справе арганізацыі сустрэчы уніяцкіх іерархаў, задуманай Напалеонам. 30 мая 1812 года, напярэдадні паходу Вялікай арміі на Расію, Адам Чарноцкі падаў у адстаўку.

Пасля паразы Напалеона Адам быў вымушаны хавацца ў сваякоў у вёсцы Кезгалоўцы Навагрудскага павета, дзе закахаўся ў мясцовую прыгажуню Юлію, таксама Чарноцкую. Але баючыся быць выкрытым, праз Тураў з'ехаў на Валынь, дзе ўзяў сабе новае імя — Зарыян Даленга-Хадакоўскі, пад якім стаў вядомым навукоўцам. Ён перапісаў біяграфію і вырашыў цалкам змяніць сваё жыццё, у адпаведнасці з тым, аб чым сапраўды марыў, — стаць вядомым даследчыкам.

## «Крупінка вялізнейшай славяншчыны»

На Валыні Даленга-Хадакоўскі наведваў магнацкія бібліятэкі, з галавой аддаваўся вывучэнню «Слова пра паход Ігаравы», звярнуўшы ўвагу на яго падабенства з беларускімі і ўкраінскімі песнямі. Знаёміўся з усімі вядомымі на той час працамі па гісторыі славян рускіх, польскіх і чэшскіх вучоных, падкрэсліваючы, што «кожны з іх сваім патрыятычным вокам бачыў толькі свой народ і сваю мову, забыўшы, што ён з'яўляецца толькі крупінкай вялізнейшай славяншчыны...».

У гэты ж час Хадакоўскі пасябраваў з Адамам Ежы Чартарыйскім. Князь згадзіўся фінансаваць вывучэнне народнай культуры на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, але не падтрымаў імкнення вучонага напісаць гісторыю агульнаславянскага перыяду. Хадакоўскі ж у адказ зазначаў: «Няхай яго патрыятычная думка не адзяляе ад мяне іншыя славянскія краіны».

Апісанне характару Хадакоўскага і яго знешняга выгляду пакінуў Рамуальд Падбярэскі: «Ён быў сярэдняга росту; твар меў круглаваты, немілавідны, пакрыты рабацінкамі; валасы чорныя, ільсняныя, заўсёды гладка пакрывалі галаву, нібы аблітыя вадою; вочы малыя, шараватыя, поўныя пачуцця, але ад бясконцае працы па вывучэнні даўніх рукапісаў амаль заўсёды напухлыя і чырванаватыя ля павекаў, стан сярэдні; ні вельмі худы, ні вельмі тоўсты. Гаварыў ён хутка і шмат. Раздражняльны, але крыўды хутка забываў. Адчуваючы сваё вярэнства, ён у размове часам забываўся да раз'юшанасці. Памяць аграмадная, асабліва пра мясцовасці і геаграфічнае становішча; на гэтую здольнасць паказвалі два крутыя ўзгоркі над вачыма, вызначаныя ў сістэме Галя. Здаралася, што праз некалькі дзесяткаў гадоў у сяброўскіх лістах ён надзвычай падрабязна апісваў колісь наведаныя мясціны і выпраўляў памылкі, адносна геаграфічнага становішча краіны, напрамку схілаў і цячэння невялікіх рэк. Сэрца ў яго было

# Зарыян Даленга-Хадакоўскі

сентыментальнае і сталае ў сяброўстве».

Праз дырэктара Крамянецкай гімназіі Сціборскага ён у 1814 годзе разаслаў па школах Украіны і Беларусі цыркуляры з прапановай настаўнікам і вучням заняцца зборам мясцовых легенд, абрадаў, замоў і перасылаць іх у Крамянец, у выніку чаго сабраў багаты матэрыял.

### Вандроўка ў Кракаў і Галіцыю

7 верасня 1817 года Хадакоўскі, па настойлівай просьбе Чартарыйскага, выправіўся ў Кракаў для збору даследчага матэрыялу. У Ягелонскім універсітэце ён пазнаёміўся з прафесарам Бандке і ўнёс шэраг правак у другое выданне яго кнігі «Гісторыя Польшчы». Бандке ж у знак удзячнасці дапамог яму наладзіць перапіску з чэшскімі славістамі І. Коларам, П. Шафарыкам і Ё. Даброўскім. Але ў цэлым Хадакоўскага здзівіў нізкі ўзровень даследаванняў кракаўскіх вучоных і засілле каталіцкай царквы.

Галоўнае ж, што адбылося падчас наведвання Кракава, — гэта тое, што Хадакоўскі ў размове са старшынёй мясцовага сената Вадзіцкім прапанаваў насыпаць курган у гонар Тадэвуша Касцюшкі: «…як удзячная наша старажытнасць жменямі насыпала магутныя магілы для сваіх правадыроў», і нават унёс на праект два талеры. Гэта сталі першыя грошы на ажыццяўленне плана, распачатага ў 1820 і завершанага ў 1823 годзе.

У цэлым Хадакоўскі быў расчараваны вандроўкай у Кракаў, канстатуючы, што пад уплывам прыгону «загінула славянская традыцыя ў польскіх сялян; іх думкі і памяць не заходзяць ужо далей бацькоў».

З Кракава ён накіраваўся да Тарнава ў Галіцыю, якая ўваходзіла ў склад Аўстрыйскай імперыі. Тут Хадакоўскі спрабаваў устанавіць мяжу паміж польскай і ўкраінскай мовамі, якую праводзіў па рацэ Сан, адзначаючы, што песні мясцовага насельніцтва «вельмі блізкія да ўкраінскай і беларускай моваў, поўныя вобразаў і старажытных выразаў».

Не губляў ён і сувязі з Радзімай, падтрымліваў ліставанне з братам Каралем, у якога прасіў то абмераць гару Міндоўга ў Навагрудку, то знайсці звесткі пра Крэва. У адным з лістоў Хадакоўскі пісаў: «Ці не праўда, што я падобны да пярэвартня? Доўгі час знаходзячыся для вас ды і для сябе ў стане змярцвення, але, дзякуй лёсу, жыву нанава. Бадзёры дух засцёгы трымаўся ўва мне. Нават пры апошнім згасанні надзеі не пакінуў ён мяне. Гэтай моцай увасрэшаны, пайшоў я па прыкладу вядомых у прыродзе пераўтварэнняў. Прышпілілўшы сабе крылы, нашуся па свеце».

### Праграмная праца

Хадакоўскі планаваў далейшы збор матэрыялаў на Галічыне, калі напачатку сакавіка 1818 года яго паклікаў Чартарыйскі для напісання працы, якая павінна была стаць падставай для далейшага фінансавання яго росшукаў. У выніку гэтага штуршка з'явіўся праграмны артыкул — «Пра славяншчыну да хрысціянства», паклаўшы пачаткі распрацоўкі навуковых асноў славянскай археалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі, дыялекталогіі і тапанімікі.



**Вядомасць да яго прыйшла неспадзявана: у «Весніку Еўропы» была надрукавана яго праца з крытыкай Карамзіна. З аднаго боку, яна прынесла Хадакоўскаму папулярнасць, з другога — выклікала гнеў рускага гісторыка**

У ёй была акрэслена тэорыя гарадзішчаў, якія вучоны лічыў выключна славянскай з'явай і, адпаведна, іх наяўнасць разглядаў як сведчанне славяншчыны. Таксама фактычна ўпершыню Хадакоўскі звярнуў увагу на тапанімічныя назвы, бачачы ў іх крыніцу новых ведаў.

Дзякуючы Хадакоўскаму і яго сябру паэту Ляху-Шырме ў віленскіх выданнях у 1819 годзе з'явіліся спецыяльныя раздзелы з матэрыяламі па гісторыі, культуры і побыце мясцовага насельніцтва.

Хадакоўскі таксама наладзіў сувязі з графам Румянцавым, які даслаў вучонаму «Гісторыю дзяржавы Расійскай» Карамзіна. У адказ Хадакоўскі даслаў свае папярэднія заўвагі да яе. У адрозненне ад рускага гісторыка, Хадакоўскі быў антынарманістам, высунуўшы гіпотэзу аб «варагах-русі» як адным са славянскіх плямёнаў.

### Бадзяга, апантаны надзеяй

З Беларусі Хадакоўскі зноў паехаў у Галіцыю, дзе быў усцешаны выданнем кніжак на ўкраінскай мове і стварэннем школ для сельскай моладзі. Зрабіў шэраг знаходак, напрыклад, у Перамышлі яму ў рукі трапіўся арыгінальны прывілей князя Льва Данілавіча ад 1292 года.

Тут жа ў жыцці Хадакоўскага здарыўся чарговы рамантычны эпізод: ён закахаўся ў Юзэфу Кульчыцкую, якая дапамагала яму ў зборанні славянскіх песень. Зарыян і Юзэфа гатовыя былі ажаніцца, але супраць шлюбу з «бадзягам Хадакоўскім» выступілі бацькі дзяўчыны.

5 кастрычніка 1818 года князь Чартарыйскі звярнуўся з дакладной запіскай да Віленскага ўніверсітэта і папрасіў прызначыць Хадакоўскаму штогадовы аклад у 1000 рублёў серабром, а таксама даць адкрыты ліст на права правядзення археалагічных раскопак і карыстанне архівамі і кнігасховішчамі. Але 31 кастрычніка ўніверсітэт адмовіў у просьбе Чартарыйскаму. Віленскія вучоныя былі настроеныя супраць Хадакоўскага з-за яго нападак на хрысціянства, і ў першую чаргу на каталіцкае духавенства.

Нягледзячы на адмову, Чартарыйскі ў другі раз звярнуўся да рады ўніверсітэта. У адказ на настойлівасць князя вучоны атрымаў толькі адкрыты ліст.

Хадакоўскі таксама намагаўся выбіць дапамогу ад Варшаўскага таварыства сяброў навук, але акрамя некалькіх станоўчых рэцэнзій на яго працы не атрымаў нічога.

### Вучоны і глухі канцлер

Падтрымку працягваў аказваць толькі Чартарыйскі, які выдзеліў Хадакоўскаму 200 злотых на паўторнае падарожжа ў Кракаў. Але замест гэтага 10 студзеня 1819 года Зарыян выправіўся ў Кіеў, наведаў архівы і на пачатку лютага, напоўнены вялікімі спадзяваннямі, накіраваўся па фінансавую дапамогу да Румянцава ў Гомель.

Гэта быў адзін з найактыўнейшых перыядаў яго жыцця, калі ён абследаваў Беліцкі павет, дзе спыніўся, спрабаваў устанавіць мяжу паміж украінскай і беларускай мовамі, зазначыўшы, што «ў Чарнігаве і ад яго на поўнач і ўсход гавораць дыялектам беларускім». Раскопваў курганы па сярэднім цячэнні Дняпра, апісаныя гісторыкам Тэадорам Нарбутам. Займаўся праўкамі да работы Карамзіна, і ў першую чаргу да складзенай ім карты Старажытнай Русі: «Ён адрэзаў напалову старажытную Русь… Літве падараваў сённяшнія літоўскія губерні, дзе паміж Вільня і Гародняй народ гаворыць на беларускай мове».

Па вяртанні Румянцава з Пецярбурга ў Гомель Хадакоўскі звярнуўся да яго з прапановай прафінансаваць вандроўку па Паўночнай Расіі. Але глухі Румянцаў, што перанёс апаплексічны ўдар пасля навіны пра пачатак вайны Францыі і Расіі, не праявіў да гэтага ніякай цікавасці. Пасля сустрэчы Хадакоўскі жартаваў: «Напалеон у 1812 годзе нанёс найвялікшую паразу Русі, аглушыўшы яе канцлера ў Вільні».

### Па дарозе ў «Паўночную Пальміру»

Хадакоўскаму нічога не заставалася, як цешыць сябе надзеяй знайсці падтрымку сваіх планаў у Карамзіна, для сустрэчы з якім ён праз Рагачоў, Быхаў, Магілёў, Віцебск, Полацк і Пскоў паехаў у Пецярбург. Чарговыя 100 рублёў яму пераслаў Чартарыйскі. Па дарозе ён спыняўся ў розных беларускіх гарадах і мястэчках, праводзіў раскопкі, даследаваў архівы. Напрыклад, у Магілёўскай гімназіі ён знайшоў невядомы яму экземпляр выдання Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года.

Непадалёку ад Себежа Хадакоўскі пазнаёміўся з Канстанцыяй Флемінг, якая вылучалася адукаванасцю і дзелавітасцю ды адразу захапіла маладога вучонага. Да таго ж яна цікавілася вуснай народнай творчасцю і была адной з першых жанчын-збіральніц беларускіх песень. Канстанцыя і Зарыян павянчаліся ў Пскове.

Па дарозе Хадакоўскі паспяваў абследаваць гарадзішчы на поўначы Расіі і ўпэўніўся, «што фіны тут ніколі не жылі», аб чым пісаў у сваёй «Гісторыі» Карамзін. Нарэшце, 9 кастрычніка 1819 года Хадакоўскі ў другі раз у жыцці, праз 10 гадоў, наведаў Пецярбург, на гэты раз ужо як даследчык з планамі вялікага падарожжа. Апантанаму чалавеку заставалася толькі самая дробязь — знайсці грошы. Аднак зрабіць гэта малавядомаму вучонаму аказалася вельмі цяжка.

### У пошуках грошай

Вядомасць да яго прыйшла неспадзявана: у «Весніку Еўропы» была надрукавана яго праца з крытыкай Карамзіна — «Даследаванне адносна рускай гісторыі». З аднаго боку, яна прынесла Хадакоўскаму папулярнасць, з другога — выклікала гнеў рускага гісторыка, ад якога залежаў лёс падарожжа. Нягледзячы на гэта, Карамзін змясціў шмат заўваг Хадакоўскага ў дадатку да 8-га тому сваёй «Гісторыі», хадайнічаў за яго перад міністрам асветы князем Галіцынам, і нават адправіў яму грошы: «Пасылаю 50 руб., больш не маю».

Рускі ж гісторык Іван Лабойка адзначаў, што Карамзін выказваў падтрымку падарожжу Хадакоўскага толькі з-за жадання пазбавіцца ад свайго крытыка.

Ведаючы пра яго цяжкае матэрыяльнае становішча, сябры «Вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці», на пасяджэннях якіх прысутнічалі будучыя дзекабрысты, выдзелілі Зарыяну 100 рублёў, ад якіх той, як ад «падачкі», адмовіўся.

### Трагічнае падарожжа

У 1820 годзе праект падарожжа Хадакоўскага словамі «Быть по сему» падпісаў імператар Аляксандр ІІ. Расійскі ўрад выдзеліў яму 3000 рублёў. Але прайшоў цэлы месяц бюракратычнай валакіты, паклонаў, перш чым грошы дайшлі да Зарыяна. Праўда, большую іх частку прыйшлося вярнуць на атрыманыя ў ранейшы час пазыкі.

І ўсё ж 17 жніўня 1820 года Хадакоўскі разам з жонкай Канстанцыяй і сынам Алесем выправіўся ў падарожжа па Расіі — «для назірання і апісання розных прадметаў, якія адносяцца да гісторыі славянскіх плямёнаў». Акрамя збірання матэрыялаў, раскопак гарадзішчаў, гэтае падарожжа стала для яго сямейнай трагедыяй: на Ладазе ён страціў сына, а ў Цверы — жонку. Але нават гэта не спыніла яго зацятасці і адданасці справе, якой ён прысвяціў жыццё.

У вандроўцы ён узяўся за «Працы з падарожжа па Расіі», пачатак якіх дасылаў у сакавіку міністру Галіцыну. У кастрычніку 1821 года «на зіму» спыніўся ў Маскве, дзе напісаў справаздачу пра сваю вандроўку. Але яго дадзеныя атрымалі адмоўную ацэнку з боку рэцэнзентаў — К. Калайдовіча і М. Фуса, апошні з якіх заявіў, што нічога добрага ад гэтых даследаванняў «надалей чакаць няможна». Гэтую высною падтрымаў і Карамзін.

У выніку 11 красавіка 1823 года Хадакоўскі атрымаў афіцыйную адмову ў далейшым фінансаванні. Ад безвыходнасці Хадакоўскі шукаў дапамогі ў Варшаўскага таварыства сяброў навук, але і тут атрымаў адмову.

Страціўшы ўсялякую надзею на працяг даследаванняў, у жніўні 1823 года Зарыян уладкаваўся кіраўніком маёнтка памешчыка Мацкевіча ў сяло Пятроўскае Цвярской губерні. Тут ён ажаніўся ў другі раз і ў хуткім часе памёр — «ад раптоўнай прастуды» 17 лістапада 1825 года ва ўзросце 40 гадоў.

# Як беларусы ў 1928 годзе гей-шлюбам палохалі

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Дзевяноста гадоў таму — 4 ліпеня 1928 года — у віленскай газеце «Сцяг Працы», якую выдавалі беларускія левыя, было надрукавана апавяданне «Дзіўнае вяселле» пад псеўданімам П. Асака. Пад гэтым псеўданімам друкаваўся больш вядомы Пётра Мятла (1890–1936), які меў яшчэ адзін псеўданім — П.Чабор. У кароткім апаведзе беларускі аўтар уявіў, «як мужчына з мужчынам жэніцца», а ўрэшце, і дзіцё заводзяць.**

## Дзіўное вясельле.

Ці чулі навіну? Вясельле ж у Вільні хутка будзе!

Вось, падумаеце, зьдзівіў! Вільня-ж табе ня вёска якая, там кожны дзень можа іх з дзесяць бывае!

А вы думаеце якое вясельле, такое звычайнае — хлапец з дзяўчынкай?

Га, калі гэтак дык я і пальцам ня крануў-бы, а ня то яшчэ чарніла дармо псаваць! Вось у тым тут і справа, што яно гэтае вясельле, нейкае дзіўнае, нябывалае!

Тодар жа-ж з Пранукам жэняцца!!

Мужчына з мужчынам?!

Але, выпадае гэтак!

— Хлусьня — скажэце—гэта-ж ня чуваная рэч! — Ня дзівецеся, браткі, цяперача такія часы, што як раз тое аб чым чалавек і не падумае, і навет у-ва сне ня ўбачыць — раптам маеш ёсьць! Ці мы думалі, што седзячы на вёсцы будзем калісь чуць, як іграюць, пяюць, або танцуюць у Бэрліне, Маскве, Варшаве? А вось цяпер праз гэтае радыё слухай, сколькі ўлезе!

А газы, якімі тысячы людзёў зараз можна вытруціць, лятакі нейкія ракетавыя, што 500 кілямэтраў у гадзіну працуюць, электрычныя гарматы — ці мы аб гэтым маглі калісь падумаць? А як для нас, беларусаў, дык асабліва часта здараецца гэта ня чуванае, не спадзеванае! Кладзешся, напрыклад, спаць, нічога за сабой ня чуеш: ня ўкраў, не зарэзаў, думаеш, ну ведама, як прад сном, аб якіх небудзь „мігдалах“, ажно раптам, як гром з яснага неба, паліцыя, ловяць цябе на „горонцым учынку“ і... на Лукішкі, а пасьля добра калі восем гадкоў, а ня і ўсе дванаццаць прышыюць!

Дык што пасьля гэтага дзівіцца, што мужчына з мужчынам жэніцца?!

Жылі — жылі, відзяць што расход велікі: дзьве чарнільніцы трэба, высыхае, марнуецца (малацыя яго—такі шмат ужываюць) і пашто калі можна з аднэй макаць! Ды і рада-перарада, усё-ж дзьве галавы, хоць і ня надта таго, а хітрэй за адну.

Ведаю, што ў вас тут зьявіцца нясκромная думка.—Гм... як жа гэта так?...

А вось і так! Ці-ж дзеля гэтага парадачныя людзі жэняцца? Ці чулі-ж вы, каб хоць адзін пан ажаніўся маладым? Ды і самі-ж казалі, што Вільня табе не якая небудзь вёска, каб дзеля гэтага яшчэ жаніцца!

Яны можа самі да гэтага і не дадумаліся-б, але, бачыце, дзядзька, іхны апякун, налягае.

— А што яны — спытаеце — радня, што аднаго дзядзьдзку маюць? — Не радня, але вось людзям Бог шчасьце пасылае! Знайшоўся, браткі, такі добры чалавечак і да таго вельмі багаты, пакахаў, як сваіх родных дзетак Прanука з Тодарам, прытуліў пад свае крылечка, дае грошы.

— Слухайце — толькі — кажа — мяне „лайдакі“ — жыць будзеце! — А чаму-ж ня слухаюць? Працы амаль ніякай — брахнуць пара разоў у месяц на радыкалаў з віленскай па шаблёну — за бальшавіцкія чырвонцы — гатуюць паўстаньні (з ложку) справаджаюць (з Марса) вінтоўкі, куляметы. Калі што, — паводле патрэбы, напішуць пра бальшавікоў, што там з голаду ўсе перамёрлі, адны камуністыя засталіся—і гуляй, колькі душа захоча! Да Штраля, туды-сюды, у сьветльно-каляровую зрэжуцца — вядома ў месьце ёсьць гдзе часок правясьці, абы грошы!

Пранук раней „пасаду“ добрую меў, дык што вы думаеце адрокся, распусьнік!

— Што мне, кажа, акцыз, калі я цяпер дзеяч „бялорускі“!

Гульнуць — гульнуць — да і зноў да дабрадзея. — Дай дзядзечка, — скончыліся!

Даваў, даваў гэны дзядзька і відзіць дзела дрэнь—сам можа без парток застацца.

Гады мокрыя, воўна на авечках расьце слаба (ён, бачыце, у фірме па стрыжцы авечак, нейкае высокае становішча займае), даход не вялікі, а пляменьнічкі, што далей, то болей патрабуюць! Вось ён і падумаў.—Жаніцеся, кажа, чэрці, мо' тагды менш расходу ды і бадзяцца ня так будзеце? — Пасагу дае абодвым, дык чаму-ж, думаюць, не пажаніцца?

Добры чалавечак, дай яму Бог здароў'я, гэты дзядзька, толькі вось неяк... не для ўсіх! Напрыклад, страшэнна ня любіць і злуецца на маю каханку Зорачку. Не падумайце, што жыдовачка, не, наша тутэйшая дзяўчынка! Як-жа яна кшчоная? Гм... вось каб цябе ліха—забыўся! А я яе ўжо ўсяляк называў — Галасочак, Званочак, Справачка, Зорачка, вядома, як чалавек закаханы, дык хочацца як мага дэлікатней!

Чаго злуецца?

Дык як-жа тут не злавацца!

Дзяўчынка шустрая, прыгожая, ёй-бы толькі з Пранукамі ды панамі кумпанію вадзіць, а яна-ж, і ў той бок не глядзіць! Зьвязалася з вясковымі хамамі, мястовымі галадранцамі — проста сорам! Чуць гдзе начуе, што каторы застогне ад цяжкай працы, або заенчыць ад голаду — зараз яна туды! Крычыць!

— Такія-сякія, нашто да гэтага даводзіце, так быць, кажа, не павінна, што адзін ажно аб'ядаецца, а другі вось дохне з голаду!—Зьбіраецца народ, наробяць шуму, крыку! Дык вось за гэта і ня любіць яе і дзядзька і Пранукі і інш падобныя! Перашкаджае, знача, ім супакойна бавіцца!

Але-ж і дастаецца ёй за тое бедненькай! Папрасілі паліцыю, дык тая цяпер праходу не дае, так і ходзіць па пятах! Убачыць ідучы на Нямецкай вуліцы — ідзе сабе спакойненька, нікога не чапае. Да чаго тут, здаецца, прычапіцца?! Знойдуць кручок!

— Здрадзаш,—кажуць—маральнасьць—спадніца кароткая!

Тая, бедная, у голас — што вы, паночкі?! Ці-ж вы ня бачыце, што ў іншых на цэлую чверць караццей?! Хочаце, каб я, як у 17-м веку, хадзіла — роўна пят?—

Нічога не памагае — пратакол, штраф, арышт!... А на вечарыны хоць не паказвайся! Запяе што небудзь — а, — кажуць, — комуністычнэ!...

Міргнець катораму хлапцу, усьміхнецца—зараз—змова, здрада, шпіёнства і яшчэ чаго ня прыдумаюць і зараз... арышт, турма!... Проста хоць ты галасі! І ня гэта яшчэ было-б, саўсім яе прыкакошылі-б, але трохі баяцца хлапцоў, што тыя не папусьцяць сваю ў абіду.

Рэдка прыходзіцца і відзець, а самі падумайце, як гэта лёгка перанасіць закаханаму чалавеку!

Але, што гэта я, рад што зайшла гутарка аб любоі, дык гаварыў-бы і гаварыў-бы, а пра вясельле і забыўся!

Даруйце! Прадаўжаю!

Дык вось гэта ашчэ ня дзіва, што жэняцца, але чыстае чуда-юда — дзяцёнка-ж будуць мець!!

— Дзяцёнка?! —

Але, але — будуць! Гульнем, што знаем, на хрэсьбінах! Толькі вось, ня ведаю яшчэ, як ахрысьцяць яго. Я радзіў-бы назваць — „Беларуская санацыя“, „Той самы воўк у другой скуры“, „Напрасныя турботы“ — але думаеце паслухаюць? Гдзе там! Назавуць як небудзь „ідэйна“ — Доля, Воля — каб, знача пыл людзям у вочы пусьціць!

Падумаеце, што гэта хлусьня нейкая, не дасьцё веры?

Як сабе хочаце — ня верце!

Пераканаецеся самі потым, як прышлюць вам гэта чуда на паказ, ды як запяе яно „Ешчэ Польска не згінэнла“ ды як забядуе над цяжкай доляй сялян (не падумайце тутэйшых, не!) у Радавай Расеі — вось тагды ўспомніце, што праўду чалавек казаў! —

П. Асака.

Так пісьменнік высмейваў паланафільскіх беларусаў-перакіньчыкаў, напалохаўшы тагачасную Вільню першым гей-шлюбам, — няхай усяго толькі ў творы, і няхай назваўшы яго ўсяго толькі «дзіўным вяселлем».

Калі сучасныя беларусы ўявіць сабе не могуць гей-шлюб, то нашы папярэднікі дапускалі, уяўлялі ўсякае і смела кідаліся вобразамі. Вядома, ужыты пісьменнікам трук абазвалі б сёння, няма сумневу, гамафобскім, як і саму насмешку, схаваную ў апаведзе. Мятла выкарыстоўвае «дзіўнае вяселле» паміж Франукам і Тодарам як насмешку з палітычных апанентаў, як схаваную абразу ў бок пэўнай беспрынцыповай часткі беларусаў, якія шукаюць кампрамісу і за грошы могуць нахвальваць як бальшавікоў, так і палякаў. Пры гэтым пісьменнік проста і так слушна падае тагачасную атмасферу польскіх цэнзуры і дэспатызму, у якой жылі беларусы, што з'ява шлюбу Тодара з Франукам падавалася ўсім зусім не дзівам.

Канешне, Пётра Мятла не з'яўляецца першым беларускім дзеячам, які загаварыў пра гей-шлюб, і тым больш пачаў змагацца за яго, але ён з тых, хто не пабаяўся фантазаваць і артыкуляваць калектыўныя страхі. Да сёння гэтая тэма застаецца табу, страхам, абразай і выкарыстоўваецца — як апазіцыяй, так і ўладамі, — каб абяззброіць і маргіналізаваць апанентаў, і робіцца гэта часта не так далікатна, з гумарам і да месца, як дзевяноста гадоў таму.

Цяпер жа, у XXI стагоддзі, калі мужчына з мужчынам жэняцца ўсур'ёз, тэкст «Дзівоснае каханне» губляе негатыўны налёт, мы вяртаемся да артыкулявання фантазіі, жадання ці, папросту, практыкі, якая сталася і становіцца завядзёнкай. Такія тэксты сведчаць пра актуальнасць гендарнага падыходу, з'яўляюцца багатым мясцовым гендарным матэрыялам і здымаюць абвінавачванні ў выключна заходнім паходжанні гендару. Беларуская гісторыя і літаратура багатыя на тэксты, гісторыі, факты, якія кладуцца ў аснову мясцовай гендарнай гісторыі. І цікавая постаць пісьменніка Пётры Мятлы — яшчэ адзін доказ таму.

Апрача гэтага апаведу, ён пакінуў пад псеўданімам П. Чабор, часткова ў друку, часткова ў рукапісе, свае лірычныя, мудрагелістыя і эстэцкія аповеды «Замошская рэспубліка», «Купалле», «Жыць!», «Кірмаш», «Страх». Рукапіс апавядаў захоўвацца ў віленскай бібліятэцы Урублеўскіх і моўчкі напрошваецца разам з астатняй раскіданай у газетах літаратурнай спадчынай на друк. Як публіцыст і пісьменнік, Мятла быў вядомы ў Вільні 1920-х гадоў, але яшчэ больш вядомы ён быў як актыўны дзеяч палітычнай левіцы (сябра Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Беларускай сялянска-работніцкай грамады). Шмат друкаваўся ў газеце БСРГ «Сцяг Працы», якая з-за цэнзуры за два гады 15 разоў мяняла назву. Распаўсюджваў і перакладаў марксісцкую літаратуру.

Такім парадкам, літаратурная і сацыяльная спадчына забытых, невядомых ці малавядомых аўтараў Беларусі застаецца неацэненым скарбам, часцяком дасюль не апублікаваным, схаваным у архівах ці бібліятэках, куды ўсё радзей ходзяць беларусы... А тэксты тыя — не проста літаратурныя і моўныя кур'ёзы, часцяком гэта годныя і дыхтоўныя зборнікі прозы і публіцыстыкі, якія так і не былі надрукаваныя па той прычыне, што ў беларусаў папросту аднялі памяць і мову. Да такіх малавядомых аўтараў, публіцыстаў і пісьменнікаў якраз і належаў цкаваны і арыштаваны палякамі, а потым вынішчаны саветамі Пётра Мятла.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1169

Падпісана да друку 23.11.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.